● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 4000 рублёў

24 снежня 1998 г. чацвер, № 246-247 (23597- 23598)



# ЗВЯЗДА

*АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА:*

## «НАМ ПАТРЭБНА СІСТЭМА АПЕРАТЫЎНАГА РЭАГАВАННЯ НА АДМОЎНЫЯ ПРАЦЭСЫ Ў ЭКАНОМІЦЫ»

Прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця і праект бюджэту Рэспублікі Беларусь на 1999 год былі разгледжаны на нарадзе ў прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі. Яна адбылася 23 снежня з удзелам прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, віцэ-прэм'ераў, кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, старшынь аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама.

«Станоўчыя тэндэнцыі нарошчвання аб'ёмаў вытворчасці па большасці пазіцый у гэтым годзе захаваліся, — адзначыў ва ўступным слове кіраўнік дзяржавы. — Аб гэтым сведчыць прырост валавога ўнутранага прадукту, прадукцыі прамысловасці, павелічэнне рознічнага тавараабароту і іншыя паказчыкі». Разам з імі Аляксандр Лукашэнка адзначыў і негатыўныя з'явы развіцця беларускай эканомікі. Яны датычаць сельскай гаспадаркі, эфектыўнасці вытворчасці, узроўню рэнтабельнасці. Акрамя таго, пакуль што не скарацілася ўдзельная вага стратных прадпрыемстваў, павялічваецца адмоўнае сальда знешняга гандлю. У гэтым годзе не выканаы зададзеныя параметры і па ўзроўню інфляцыі.

«Нам патрэбна аператыўная сістэма рэагавання на адмоўныя працэсы ў эканоміцы, каб своечасова выпрацоўваць эфектыўныя спосабы іх пераадолення, — сказаў прэзідэнт. — За кожнай з'явай трэба бачыць людзей і ўлічваць іх спадзяванні і інтарэсы. — Галоўнай задачай на 1999 год з'яўляецца забеспячэнне нармальнага жыцця беларускага народа».

Для дасягнення пастаўленых мэтаў, лічыць кіраўнік дзяржавы, неабходна забяспечыць выкананне нацыянальнай праграмы па прыцягненню інвестыцый, кантроль за акупнасцю крэдытаў, выкарыстоўваць нетрадыцыйныя крыніцы папаўнення бюджэту, актывізаваць знешнеэканамічную дзейнасць і работу па імпартазамяшчэнню. Акрамя таго, важна забяспечыць комплекс мераў па стабілізацыі курса беларускага рубля, прывесці ў адпаведнасць сістэму цэнаўтварэння. «Мы не можам рабіць выгляд, што ў нас усё ў парадку, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Але слабыя месцы ў сістэме неабходна ліквідаваць».

Развіццю беларускай эканомікі будзе садзейнічаць і працяг інтэнсіўнага супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй, а таксама арыентаванне на сувязі з дзяржавамі — удзельніцамі СНД.

Што датычыць прадстаўленага праекта бюджэту, то, на думку прэзідэнта, тут неабходна разгледзець усе магчымыя варыянты па скарачэнню падатковай нагрузкі на суб'екты гаспадарання, вызначыць рэальны ўзровень дэфіцыту бюджэту і ўвесці жорсткі рэжым эканоміі сродкаў міністэрствамі і іншымі рэспубліканскімі органамі, якія атрымліваюць бюджэтныя асігнаванні. Разам з тым важна ўзмацніць і скаардынаваць эканамічныя, арганізацыйныя і адміністрацыйныя метады кантролю плацежнай і фінансавай дысцыпліны.

Дасягненне намечаных паказчыкаў, лічыць Аляксандр Лукашэнка, немагчыма без навядзення парадку і дысцыпліны на вытворчасці, укаранення эфектыўнай і стымулюючай сістэмы аплаты працы. Акрамя таго, лічыць прэзідэнт, неабходна звярнуць увагу і на навуку, якая павінна прыносіць рэальную аддачу.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## МЯСА ШМАТ. ПАКУПНІКОЎ НЯМА...

**Штогод напрыканцы навагодніх святаў курс амерыканскага «зялёнага» крыху змяншаецца. Гэта абумоўлена тым, што людзі ў гэты час укладваюць грошы не ў валюту, а наадварот — «скідваюць» яе, каб можна было набыць падарункі, падрыхтавацца як мае быць да святаў. Не стаў выключэннем і гэты год, прынамсі, пэўнае падзенне долара можна назіраць (і адчуваць на сабе) ужо зараз.**

У прыватнасці, на рэчавым рынку ў Ждановічах курс «зялёнага» пры разліках з прадаўцамі складае 235—240 тысяч рублёў, хаця яшчэ нядаўна долар менш чым за 250—255 тысяч не ішоў. Зрэшты, нават гэтая акалічнасць не ажыўляе гандаль: на радах тут даволі пуста, і гандляры шчыра рады кожнаму патэнцыяльнаму пакупніку — абы толькі што-небудзь набыў, нават са скідкай. Яны не хаваюць, што купляюць у іх зараз вельмі і вельмі мала. Трэба меркаваць, у людзей, чые асноўныя сродкі былі кінуты на набыццё харчавання, цікавасць да адзення і абутку часова прапала...

Харчовы рынак у Ждановічах, зрэшты, шматлюднасцю таксама пахваліцца не можа. Безумоўна, віной таму цэны, якія сталі для многіх «непад'ёмнымі». І хаця (вядома, курс долара тут ні пры чым) на шэраг харчовых тавараў цэны істотна знізіліся (напрыклад на мяса — на 50—70 тысяч рублёў за кілаграм), яны ўсё роўна застаюцца даволі высокімі. Мяркуйце самі: ялавічная выразка каштуе ў сярэднім каля 300 тысяч рублёў за кілаграм, кумпяк — 320—400 тысяч, тонкае — «на два пальцы» — свежае сала — 220—250 тысяч рублёў за кілаграм.

Выбар мясных прадуктаў надзвычай багаты,але пакупнікоў няшмат. Не бяруць нават адносна танныя свіную галаву (70 тысяч рублёў за кілаграм, ногі — 140 тысяч, ялавічныя рэбры — 150—200 тысяч рублёў), не кажучы ўжо пра курыныя кумпячкі (279 тысяч) і ўласна куры (377 тысяч за кілаграм), на якіх увогуле пакупнікоў — нават прыцаніцца — няма. Вельмі добры выбар свежай рыбы — і рачной, і марской. Праўда, па цэнах гэты тавар не саступае мясу, нават пераўзыходзіць яго: кілаграм судака каштуе 675 тысяч, карася — 575, шчупака — 330 тысяч рублёў за кілаграм і гэтак далей.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЧЫЯ ЁЛКА САМАЯ ВЫСОКАЯ?



*На самую высокую ёлку сёння прэтэндуе Мінскі касцёл святых Сымона і Алены. Упрыгожаны з нагоды Ражаства Хрыстова, якое ў гэтыя дні на календары вернікаў каталіцкай канфесіі, касцёл выглядае асабліва ўрачыста.*

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

***Хрысціянам Беларусі, якія святкуюць Нараджэнне Хрыстова 25 снежня***

Дарагія суайчыннікі!

Сардэчна віншую вас з Нараджэннем Хрыстовым.

Нараджэнне Хрыстова для кожнага хрысціяніна — гэта свята абнаўлення і надзей. Упэўненасць у стваральнай сіле хрысціянскай духоўнасці і яе перспектывах умацоўваецца ўсведамленнем таго, што надыходзячы год яшчэ на адзін крок набліжае нас да найвялікшай у гісторыі чалавецтва даты — 2000-годдзя хрысціянства.

Па традыцыі Нараджэнне Хрыстова адзначаюць у сямейным коле. У гэтыя светлыя дні сэрцы людзей напаўняюцца пачуццямі любові, спачування, удзячнасці. Перад тым, як запаліцца калядныя свечкі, давайце забудзем на час аб сваіх праблемах, акружым блізкіх людзей клопатам і ўвагай, пажадаем адзін аднаму міру і дабрабыту.

Віншуючы з Нараджэннем Хрыстовым, жадаю, каб светлыя пачуцці і думкі не пакідалі вас і давалі сілы для добрых спраў на карысць вашых сем'яў і ўсяго грамадства.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

### РАБОЧЫЯ ДНІ ПЕРАНОСЯЦЦА

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб пераносе рабочых дзён у 1999 годзе.

Згодна з ёй пераносяцца рабочыя дні з пятніцы 8 студзеня на суботу 16 студзеня, з панядзелка 19 красавіка на суботу 17 красавіка 1999 г.

**БЕЛТА.**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Апошнім часам ад вас паступаюць справядлівыя нараканні адносна выхаду газеты, маўляў, калі не выходзіць з друку нумар, дык хаця б стаўце аб гэтым у вядомасць загадзя. Сябры, вы маеце рацыю, але... Як і многія іншыя выданні, «Звязда» апынулася зараз у нялёгкай сітуацыі. Адной з галоўных праблем з'яўляецца адсутнасць газетнай паперы. Але нягледзячы на гэта ўсе супрацоўнікі газеты штодзённа выконваюць сваю работу, яна вярстаецца — рыхтуецца да друку, і літаральна да апошняй гадзіны працоўнага часу мы ліхаманкава спрабуем знайсці, набыць патрабную паперу, спадзеючыся, што назаўтра нашы чытачы ўбачаць свежы нумар «Звязды»... На жаль, гэта не заўсёды ўдаецца, таму і папярэдзіць загадзя сваіх прыхільнікаў і шчырых сяброў мы не можам, таму што гэтыя нявыхады — нязапланаваныя.

Спадзяемся ўсё ж, што да канца года мы выканаем свой абавязак перад чытачамі — газета выйдзе, як і планавалася, усе 250 разоў за год. Верым, што вы зразумееце нас і, нягледзячы на часовыя цяжкасці, усё ж застанецеся з намі і надалей!.

У сувязі са святам наступны нумар газеты выйдзе ў аўторак, 29 снежня.

**«Звяздоўцы».**

***Усміхнёмся!***



**Нечаканая сустрэча на Калядах.** Фота Аляксандра ХІТРОВА.





Малюнак Я. ЦАРКОВА.

*Сустрэліся два прыяцелі.*

*— Заўтра іду на паляванне. Хочаш са мной?*

*— Хачу, але ж я не ўмею...*

*— А што там умець? Налівай ды пі!*

●

*У магазіне.*

*— Дайце мне, калі ласка, адну маленькую сасіску.*

*— Толькі адну? Вы на дыеце?*

*— Не, на пенсіі.*



### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 23 СНЕЖНЯ 1998 г. (па стану на 10.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 210000 | 230000 | 130000 | 137600 | 10000 | 11100 | 276-95-31 |
| Афіцыйны курс Нацыянальнага банка РБ | 105000,00 | | 62826,85 | | 5080,00 | | Курс на 24.12.1998 |
| Курс, устаноўлены НБ РБ | 220000,00 | | 131785,67 | | 10660,00 | | |
| Цэнтрабанк Расіі (Масква) | 20,5100 | | 12,2895 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

# ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ШЫПУКА ПАЎЛА УЛАДЗІМІРАВІЧА НА ЗАКРЫТАЙ ПЯТАЙ СЕСІІ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**19 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА**

Паважаныя калегі!

Сёння завяршаецца пятая сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, якая ў адпаведнасці з артыкулам 95 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пачала сваю работу 2 кастрычніка 1998 года. За няпоўныя тры месяцы адбылося шэсць пленарных пасяджэнняў Савета Рэспублікі і два сумесныя пасяджэнні з дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў, у ходзе якіх былі разгледжаны найбольш важныя і актуальныя праблемы заканадаўчага забеспячэння сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі, пытанні міжнароднага супрацоўніцтва і міжпарламенцкіх сувязяў.

Добрым пачаткам заканатворчага працэсу пятай сесіі стала сустрэча вышэйшых службовых асоб парламента, выканаўчай і судовай уладаў краіны з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. Гэта сустрэча ў многім вызначыла дзелавую накіраванасць і выніковасць нашай работы. На пасяджэннях пятай сесіі Савета Рэспублікі адобрана 50 законаў, якія рэгулююць грамадскія адносіны ў розных сферах сацыяльна-эканамічнага і палітычнага жыцця грамадства.

Вялікае значэнне для павышэння эфектыўнасці дзяржаўнага рэгулявання эканамічных працэсаў і развіцця рыначных механізмаў мела адабрэнне членамі Савета Рэспублікі Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, які, па сутнасці, з'яўляецца «эканамічнай канстытуцыяй» нашай дзяржавы.

Прынятыя Гаспадарчы працэсуальны, Грамадзянскі працэсуальны кодэксы і Закон «Аб гаспадарчых судах у Рэспубліцы Беларусь» закліканы забяспечыць судовую абарону як юрыдычных, так і фізічных асоб у сферы прадпрымальніцкай і іншай гаспадарчай дзейнасці, законнасць і справядлівасць у ажыццяўленні правасуддзя.

Адобраны таксама Паветраны кодэкс і Кодэкс аб зямлі, якія маюць першаступеннае значэнне ў рэфарміраванні аграпрамысловага комплексу, развіцці транспартнай галіны.

Рэформы, што ажыццяўляюцца ў рэспубліцы, патрабуюць удасканалення раней прынятых законаў. Зыходзячы з гэтага, унесены змяненні і дапаўненні ў 16 заканадаўчых актаў. Прынятыя на пятай сесіі заканадаўчыя акты не толькі замацоўваюць асновы рыначнай эканомікі, фінансавых і падатковых адносінаў, але і накіраваны на абарону правоў і свабод чалавека, умацаванне незалежнасці і міжнароднага аўтарытэту дзяржавы.

Разам з тым няпростая эканамічная сітуацыя ў нашай краіне, выкліканая фінансавым крызісам у Расіі, стала прычынай аб'ектыўных складанасцяў, з якімі сутыкнулася Міністэрства фінансаў пры падрыхтоўцы праекта асноўнага фінансавага закона -- Дзяржаўнага бюджэту на 1999 год. Вы, безумоўна, ведаеце, што яго першы варыянт быў падрыхтаваны яшчэ да пачатку расійскага крызісу і, адпаведна, не ўлічваў яго вынікаў. Зусім нядаўна Прэзідыум Савета Міністраў прыняў асноўныя напрамкі грашова-крэдытнай палітыкі і прагнозныя паказчыкі на наступны год ужо з улікам вынікаў расійскага фінансавага крызісу для Беларусі. Таму не варта спяшацца з прыняццем гэтага закона. Бюджэт павінен быць рэальным, пралічаным да тонкасцяў і выканальным. Будзем рыхтавацца да яго разгляду на нечарговай сесіі Савета Рэспублікі ў пачатку наступнага года.

Паважаныя калегі!

Думаю, вы пагодзіцеся са мной, што наша работа стала больш прафесійнай, я сказаў бы, больш цікавай. У мэтах глыбокай тэарэтычнай і практычнай прапрацоўкі законапраектаў новую эфектыўную форму прапанавала Пастаянная камісія па сацыяльных пытаннях. Напярэдадні разгляду праекта Закона «Аб прававой ахове тапалогій інтэгральных мікрасхем» камісія правяла выязное пасяджэнне на НВА «Інтэграл». Знаёмства з прадпрыемствам, яго спецыфікай і праблемамі дапамаглі парламентарыям глыбей унікнуць у сутнасць дадзенага нарматыўнага акта. Лічу, што такая форма падрыхтоўкі законапраектаў сябе апраўдвае.

У час работы пятай сесіі члены Савета Рэспублікі прынялі ўдзел у парламенцкіх слуханнях па пытаннях развіцця лясной гаспадаркі і лесакарыстання ў Рэспубліцы Беларусь. Вы ведаеце, у 1999 годзе плануецца прыняцце Ляснога кодэкса. Усебаковае і грунтоўнае вывучэнне праблем развіцця лясной гаспадаркі і лесакарыстання неабходна, паколькі лес -- адзін з асноўных прыродных здабыткаў нашай краіны. Па выніках слуханняў былі прыняты рэкамендацыі, важнейшая з якіх -- распрацоўка канцэпцыі развіцця лясного комплексу Рэспублікі Беларусь да 2015 года.

У мэтах павышэння прафесійнага ўзроўню членаў Савета Рэспублікі ў час пятай сесіі былі арганізаваны і праведзены 4 навукова-практычныя семінары.

Пастаянная камісія па эканоміцы, бюджэту і фінансах арганізавала семінар «Банкаўская сістэма і крэдытна-грашовая палітыка ў Рэспубліцы Беларусь: стан і перспектывы развіцця», у якой прынялі ўдзел і члены Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Па ініцыятыве намесніка Старшыні Савета Рэспублікі Тамары Мікалаеўны Дудко прайшоў семінар на базе адкрытага акцыянернага таварыства «Аліварыя», які даў магчымасць пазнаёміцца з вопытам павышэння эфектыўнасці вытворчасці, павелічэння падатковых адлічэнняў дзяржаве за кошт росту аб'ёмаў выпуску прадукцыі высокай якасці.

Вывучэнню праблем працоўнага і жыллёвага заканадаўства, пенсійнай сістэмы быў прысвечаны семінар, падрыхтаваны Пастаяннай камісіяй па сацыяльных пытаннях.

«Укараненне энергазберагальных тэхналогій у народнай гаспадарцы Мінскай вобласці» -- семінар на такую тэму адбыўся на базе прадпрыемстваў Заслаўя, Беларускай занальнай доследнай станцыі па птушкагадоўлі, акцыянернага таварыства «Забудова». Ініцыятарам яго правядзення стала Пастаянная камісія па рэгіянальнай палітыцы. Напомню, што на чацвёртай сесіі быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь «Аб энергазберажэнні». Правядзенне гэтага мерапрыемства -- своеасаблівая праверка выканання закона, вывучэнне яго дзеяння ў рэальным жыцці.

З'яўляючыся Палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва, Савет Рэспублікі пастаянна ўдасканальвае формы ўзаемадзеяння з мясцовымі органамі ўлады.

У прыватнасці, у перыяд работы пятай сесіі прайшлі дзве сустрэчы са старшынямі пасялковых і сельскіх Саветаў дэпутатаў. Члены Прэзідыума Савета Рэспублікі падрабязна адказалі на пытанні кіраўнікоў Саветаў, выслухалі іх думкі і канкрэтныя прапановы па рэфарміраванню мясцовага самакіравання, ролі і задачах Нацыянальнага сходу. Важнасць і неабходнасць такіх сустрэч відавочная.

Адной з формаў узаемадзеяння з мясцовымі органамі ўлады з'яўляецца ўдзел членаў Савета Рэспублікі ў рабоце прэзідыумаў і сесій, пасяджэннях выканаўчых камітэтаў абласных, гарадскіх, раённых Саветаў дэпутатаў. У перыяд пятай сесіі гэта практыка была працягнута. Падобныя дзелавыя кантакты дапамагаюць членам Савета Рэспублікі вывучаць праблемы мясцовых органаў улады, вызначаць прыярытэтныя напрамкі ў заканадаўчай дзейнасці.

Хачу таксама адзначыць, што на пятай сесіі Савета Рэспублікі было акрэдытавана больш за 80 беларускіх і замежных журналістаў. Гэта дало магчымасць шырока і аб'ектыўна асвятляць у сродках масавай інфармацыі нашу заканатворчую і міжпарламенцкую дзейнасць.

З выкарыстаннем міжнароднай камп'ютэрнай сістэмы «Інтэрнэт» створана таксама адзіная база матэрыялаў аб рабоце Савета Рэспублікі, якая налічвае больш за 200 старонак тэксту і пастаянна папаўняецца новай дакладнай інфармацыяй.

Паважаныя члены Савета Рэспублікі!

На пятай сесіі працягвалася таксама актыўная работа па ратыфікацыі міжнародных дагавораў. Сярод чатырнаццаці ратыфікаваных міжнародных актаў двухбаковага характару трэба адзначыць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Саюзнай Рэспублікі Югаславія аб паветраных зносінах.

Асаблівае значэнне маюць ратыфікацыі Канвенцыі аб транснацыянальных карпарацыях, Пагадненні аб супрацоўніцтве па спыненню правапарушэнняў у галіне інтэлектуальнай уласнасці і Пагадненні аб супрацоўніцтве краін -- удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў у барацьбе з незаконнай міграцыяй.

Адначасова з ратыфікацыяй міжнародных дагавораў, якія носяць знешнепалітычны характар, важнае значэнне маюць і ратыфікацыі міжурадавых дагавораў і пагадненняў аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і прадухіленні ўхілення ад уплаты падаткаў на даходы і маёмасць. У дапаўненне да раней прынятых падобных актаў на пятай сесіі былі ратыфікаваны: Канвенцыя паміж Урадамі Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Кіпр, Пагадненні паміж Урадам нашай краіны і Урадамі Сірыйскай Арабскай Рэспублікі, Саюзнай Рэспублікі Югаславіі і шэраг іншых. Гэтыя заканадаўчыя акты будуць садзейнічаць паглыбленню інтэграцыі, прыцягненню інвестыцый, стварэнню новых рабочых месцаў, забеспячэнню жыццёва важных інтарэсаў нашай краіны.

Як вы ведаеце, міжпарламенцкая дзейнасць Савета Рэспублікі накіравана на ўмацаванне міжнародных пазіцый Рэспублікі Беларусь і развіццё супрацоўніцтва з парламентарыямі і парламенцкімі інстытутамі сусветнага супольніцтва. У гэтым годзе члены Савета Рэспублікі працягвалі актыўную работу ў структурах МПА, МПК і Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі. У адпаведнасці з планам мадэльнай заканатворчасці МПК нашай Палатай распрацаваны і прадстаўлены праект Закона «Аб дзяржаўнай тайне».

Адным са станоўчых аспектаў такой дзейнасці ў рамках Міжпарламенцкага Саюза з'явілася прапанова Старшыні Савета МПС Мігеля Анхеля Марцінеса, якая паступіла ў адрас Савета Рэспублікі, выступіць на 3-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па пытанню супрацоўніцтва паміж ААН і МПС. Гэта сведчыць аб стабільным становішчы нашай рэспублікі ў старэйшай міжнароднай міжпарламенцкай арганізацыі.

Была працягнута паслядоўная і мэтанакіраваная работа з еўрапейскімі парламенцкімі структурамі. Аб намечаных станоўчых тэндэнцыях у нашых адносінах з ПАСЕ сведчыць візіт кіраўнікоў гэтай аўтарытэтнай еўрапейскай арганізацыі ў нашу краіну. Намеснікі Старшыні ПАСЕ Барыс Алійнік і Роберт Антрэтэр вывучылі становішча і падрыхтавалі справаздачу аб палітычным становішчы ў Рэспубліцы Беларусь.

Станоўчым аспектам узаемадзеяння ў рамках АБСЕ стаў удзел членаў Савета Рэспублікі па запрашэнню гэтай арганізацыі ў якасці назіральнікаў за выбарамі ў замежных дзяржавах. Гэта мела станоўчы рэзананс у колах грамадскасці і знайшло адлюстраванне ў сродках масавай інфармацыі.

У сувязі з абвастрэннем сітуацыі вакол Югаславіі дзяржаўная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь, у састаў якой ад Савета Рэспублікі ўваходзіў старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, выязджала ў Саюзную Рэспубліку Югаславія. У ходзе паездкі кіраўнікамі югаслаўскага парламента была выказана прапанова аб іх уваходжанні ў групу «Еўразія» і Парламенцкі Сход Саюза Беларусі і Расіі. Такім чынам, у нашых краін з'явіцца магчымасць падтрымліваць адзін аднаго ў міжпарламенцкіх структурах.

Працягваецца падрыхтоўка да правядзення міжнароднай парламенцкай канферэнцыі «Еўропа -- наш агульны дом». У Савеце Рэспублікі прайшлі два пасяджэнні рабочай групы па яе арганізацыі. Ужо разасланы запрашэнні, сфарміравана праграма канферэнцыі, распрацаваны яе рабочыя дакументы.

Паважаныя парламентарыі!

Вы, безумоўна, звярнулі ўвагу на той факт, што значная колькасць законапраектаў па ранейшаму паступае да нас з Палаты прадстаўнікоў у апошнія дні работы. На гэты раз на завяршальныя пленарныя пасяджэнні Савета Рэспублікі была вынесена амаль палова ўсіх заканадаўчых актаў, якія разглядаліся пятай сесіяй.

Прычыны гэтага, перш за ўсё, у недахопах арганізацыйна-прававой базы, у недасканаласці планавання законапраектнай дзейнасці ўсіх галін улады.

Практыка паказвае нам, што шэраг палажэнняў Канстытуцыі, якія датычацца заканадаўчай дзейнасці, патрабуюць афіцыйнага тлумачэння. Акрамя гэтага, для поўнага ўрэгулявання працэдуры праходжання законапраектаў неабходны Закон аб парадку падрыхтоўкі і прыняцця нарматыўных актаў. Яго праект згубіўся ў структурах выканаўчай улады. Неабходна ў бліжэйшы час вырашыць гэту праблему і завяршыць фарміраванне арганізацыйна-прававой базы на бліжэйшай сесіі, а таксама наладзіць планаванне законапраектнай дзейнасці. Работа ў гэтым напрамку ўжо ідзе.

Рыхтуецца план падрыхтоўкі законапраектаў на 1999 год, канцэпцыя развіцця заканадаўства і дзяржаўная праграма падрыхтоўкі праектаў законаў у Рэспубліцы Беларусь на 1999--2005 гады. Гэтыя дакументы мяркуецца зацвердзіць указам прэзідэнта. А гэта азначае, што ў нашай рабоце з'явяцца элементы так званай пакетнай заканатворчасці, і, спадзяюся, зацвердзіцца стабільны графік праходжання і прыняцця законаў.

Усё гэта несумненна дапаможа нам у разглядзе запланаваных на бліжэйшую перспектыву такіх важных законапраектаў як Выбарчы, Банкаўскі, Прадпрымальніцкі і Падатковы кодэксы, кодэкс «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні», Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, Працэсуальна-выканаўчы кодэкс, Навуковы, Атмасферны і Лясны кодэксы.

У сувязі з гэтым дарэчы будзе закрануць і некаторыя задачы, якія вынікаюць з прынятага нядаўна Закона «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь». Мяркую, ва ўмовах узрастаючага аб'ёму заканатворчай дзейнасці Савету Рэспублікі, які не мае ў сваім саставе дастатковай колькасці парламентарыяў, што працуюць на пастаяннай аснове, вельмі важна выкарыстаць асноўныя палажэнні гэтага закона з тым, каб стварыць неабходныя ўмовы (уключаючы і інстытут памочнікаў) для больш эфектыўнай работы ўсіх членаў Савета.

Паважаныя таварышы!

Напярэдадні калядных і навагодніх святаў мне асабліва прыемна паведаміць, што праца нашых калег, якія вось ужо амаль два гады паспяхова сумяшчаюць парламенцкую дзейнасць з плённай работай у розных галінах народнай гаспадаркі краіны, высока ацэнена Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. Ордэнам Айчыны III ступені ўзнагароджаны старшыня Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Іосіфавіч Дубко, былы старшыня Клецкага райвыканкама, цяпер намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь, Анатоль Мікалаевіч Рубанік, прэзідэнт акцыянернага таварыства «Атлант» Леанід Іванавіч Калугін. Ордэнам Пашаны ўзнагароджаны старшыня Пастаяннай камісіі па эканоміцы, бюджэту і фінансах Савета Рэспублікі, у мінулым кіраўнік адміністрацыі Партызанскага раёна горада Мінска, Міхаіл Васільевіч Матусевіч. Ганаровых званняў заслужанага работніка транспарту, сельскай гаспадаркі, аховы здароўя ўдастоены Віктар Рыгоравіч Рахманько -- начальнік Беларускай чыгункі, Аляксандр Фёдаравіч Акуліч -- дырэктар саўгаса-камбіната «Барысаўскі», Яўгенія Мікалаеўна Зелянкова -- намеснік галоўнага ўрача па лячэбнай рабоце медыцынскай часці вытворчага аб'яднання «Хімвалакно». Рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Леанід Ніканоравіч Ціханаў удастоены звання «Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь». Давайце павіншуем узнагароджаных.

Паважаныя калегі!

Завяршаецца год. Ён быў цяжкім для нашай рэспублікі. Няхай надыходзячы новы год стане для ўсіх годам добрых здзяйсненняў. Каб сустракаючы год двухтысячны кожны з нас паклаўшы руку на сэрца мог сказаць: «У адыходзячым 1999-м я зрабіў усё, каб народ маёй краіны стаў шчаслівейшым».

Дзякую вам за работу на пятай сесіі і за ўвагу.

---

***РАБОТНІКАМ БЕЛАРУСКАЙ ЭНЕРГАСІСТЭМЫ, ЭНЕРГЕТЫКАМ ІНШЫХ ГАЛІН НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ***

Паважаныя энергетыкі!

Прыміце сардэчныя віншаванні ў сувязі з прафесійным святам -- Днём энергетыка.

Адной з умоў стабілізацыі эканомікі нашай краіны з'яўляецца развіццё яе энергетычнага комплексу. Упэўнены, што беларускія энергетыкі дзякуючы высокай дысцыплінаванасці, арганізаванасці і прафесіяналізму будуць і ў далейшым рабіць усё, што ад іх залежыць, для бесперабойнага энергазабеспячэння народнай гаспадаркі і насельніцтва рэспублікі.

Шчыра жадаю вам і вашым блізкім моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, новых працоўных здзяйсненняў на карысць людзей.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

---

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАВІНШАВАЎ З ЮБІЛЕЕМ ІТАЛЬЯНСКУЮ ФЕДЭРАЦЫЮ ФУТБОЛА

На ўрачыстай цырымоніі, прысвечанай 100-гадоваму юбілею Італьянскай федэрацыі футбола, пасол Беларусі ў Італіі Наталля Дрозд уручыла кіраўніку італьянскай футбольнай федэрацыі Лучана Ніцола асабістае пасланне кіраўніка беларускай дзяржавы і прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі, а таксама памятны знак Беларускай федэрацыі футбола.

Пан Ніцола падзякаваў паслу за аказаны прэзідэнтам Беларусі гонар і за высокую ацэнку ўкладу італьянскай федэрацыі футбола ў развіццё аднаго з самых папулярных відаў спорту. Ён таксама адзначыў добрыя перспектывы развіцця супрацоўніцтва ў галіне спорту паміж дзвюма краінамі і выказаў надзею, што адносіны паміж беларускай і італьянскай федэрацыямі футбола атрымаюць інтэнсіўнае развіццё.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**

---

## УРАД ЗАВЯРШАЕ РАБОТУ НАД ПРАЕКТАМ ДЗЯРЖАЎНАГА БЮДЖЭТУ

**Прэзідыум Савета Міністраў на спецыяльным пасяджэнні, праведзеным 22 снежня, разгледзеў праект дзяржаўнага бюджэту і сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1999 год. Як адзначыў на пачатку пасяджэння прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, галоўны фінансавы закон краіны абмяркоўваецца ва ўрадзе і парламенцкіх камісіях ужо не першы раз. Эканамічная сітуацыя ў апошнія месяцы мянялася вельмі дынамічна, таму прыходзілася перапісваць многія бюджэтныя артыкулы.**

Асноўныя параметры праекта павінны, на думку распрацоўшчыкаў, забяспечыць устойлівае развіццё народнай гаспадаркі Беларусі. Даходная частка бюджэту ў параўнанні з гэтым годам павялічыцца ў 2,8 раза. У структуры даходу асноўныя паступленні чакаюцца ад плацяжоў па падатку на дабаўленую вартасць -- 28 працэнтаў, акцызных збораў -- 21,8 працэнта, падаходнага падатку -- 12 працэнтаў.

Бюджэтныя расходы павялічацца ў 2,7 раза і складуць у сумарным выражэнні 667,7 трыльёна рублёў. Гэтыя сродкі будуць накіраваны на пераадоленне вынікаў эканамічнага крызісу, забеспячэнне росту даходаў насельніцтва і падтрымку рэальнага сектара эканомікі.

Значныя фінансавыя сродкі ў форме крэдытаў Нацыянальнага банка плануецца выдзеліць на рэалізацыю жыллёвых праграм і набыццё новай тэхнікі для сельскай гаспадаркі рэспублікі. Праект таксама гарантуе бесперабойнае атрыманне пенсій, стыпендый, аплату медыцынскіх паслуг і іншых сацыяльных выплат.

Сур'ёзныя змяненні адбудуцца ў структуры падаткаабкладання. Стаўку падатку на прыбытак плануецца знізіць з 30 да 25 працэнтаў. Ліквідуюцца некаторыя пазабюджэтныя фонды. Напрыклад, дарожныя зборы будуць спаганяцца ў форме дадатковай нацэнкі на кошт аўтамабільнага паліва.

**БЕЛТА.**

---

***Удакладненне***

*У заметцы «Чытанне абвінаваўчага заключэння на працэсе Старавойтава падыходзіць да завяршэння» ў нумары за 17.12.98 у трэцім абзацы трэба чытаць: «З пастановы суда, якую аб'явіла старшыня Надзея Чмара, вынікае, што...» і далей па тэксту. У другім сказе трэба чытаць «суд лічыць...» і далей па тэксту.*

---

Сардэчна віншуем з 60-годдзем **Ларысу Паўлаўну ДРАЗДОВІЧ** з г. Мінска. Жадаем добрага здароўя, шчасця, бадзёрасці, дабрабыту, даўгалецця.

***Родныя, сябры.***

Шчыра віншуем дарагую дачушку **Вольгу Віктараўну ДРЭВІЛА.** Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і жыцці.

***Бацькі, родныя, в. Праскурні.***

---

**СЁННЯ**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Данілы, Лукі, Нікана**
**К. Евы, Эвеліны, Адама**

## МЕСЯЦ

**Маладзік 19 снежня.**
**З 10.55 -- 7-ыя месяцавыя суткі.**
**З 23.46 Месяц -- у сузор'і Рыбаў.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, па паўночнай палавіне невялікі снег. Вецер паўднёва-заходні, 5--10 м/сек. Тэмпература паветра ў Гомелі -- 5--7, Магілёве -- 4--6, Мінску, Віцебску -- 3--5, Брэсце -- 2--4, Гродне -- 1--3 градусы марозу.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 25-га ўначы -- па паўночна-заходняй палавіне, удзень -- месцамі па рэспубліцы снег; 26-га часам ападкі, туман, слабы галалёд. Вецер паўднёва-заходні, 7--12 м/сек. Тэмпература 25-га ўначы -- 1--6, па Гомельскай вобласці -- 6--11 градусаў марозу, удзень -- мінус 4--плюс 1; 26-га ўначы -- 0--5 градусаў ніжэй нуля, удзень -- мінус 2--плюс 3.

---

Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне начальніку Сакратарыята Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Шылу Дзмітрыю Мікалаевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам -- заўчаснай смерцю БРАТА МІКАЛАЯ.

---

Сакратарыят Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне Начальніку Сакратарыята Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Шылу Дзмітрыю Мікалаевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам -- заўчаснай смерцю БРАТА.

# СТРАХАВАЯ КУЛЬТУРА ГРАМАДСТВА: МАРА ЦІ ЎСЁ Ж РЭАЛЬНАСЦЬ?

**Апошнім часам у прэсе з'явілася шмат публікацый аб стане страхавога рынку і шляхах яго развіцця. Гэтае пытанне даволі складанае, і таму, на наш погляд, дыскусія прынесла б толькі карысць. Аглядальнік «Звязды» гутарыць з генеральным дырэктарам Беларускай дзяржаўнай арганізацыі па страхаванню рызыкі, звязанай са знешнеэканамічнай дзейнасцю, Вячаславам БАЛІБОКАМ.**

**— Калі быць самакрытычным і аналізаваць паказчыкі стану страхавога рынку, то можна сказаць, што ў Беларусі закладзены толькі асновы нацыянальнага страхавання. Але наўрад ці мы можам сцвярджаць, што яно заняло належнае становішча ў сістэме абароны маёмасных інтарэсаў насельніцтва. А таксама прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў рэспублікі. Як вы асабіста лічыце?**

— У Беларусі страхуецца ўсяго некалькі працэнтаў патэнцыяльных рызык, тады як у большасці развітых краін гэты паказчык складае 90—95 працэнтаў. Сукупны аб'ём страхавых прэмій у нашай рэспубліцы параўнальны з сумай прэміі толькі адной сярэдняй заходняй страхавой кампаніі. Так што мяркуйце самі.

Фінансавыя магчымасці беларускіх страхоўшчыкаў па пакрыццю буйных рызык застаюцца нізкімі, паколькі іх фінансавыя актывы сёння складаюць каля 40 млн. долараў ЗША. І ў той жа час за мяжу цераз перастрахаванне ідуць значныя сродкі, якія маглі б быць крыніцай унутраных інвестыцый.

**— Мне здаецца, што сёння сапраўды вельмі важна вызначыцца, якімі шляхамі павінна развівацца страхавая справа ў рэспубліцы.**

— Многіх кіраўнікоў страхавых кампаній хвалюе ў практычнай плоскасці пытанне, якімі павінны быць канкрэтныя крокі, каб у кароткія тэрміны фінансавыя актывы з 40 млн. долараў ЗША дасягнулі, напрыклад, 400 млн. долараў і больш. Як наблізіцца да паказчыкаў заходніх краін? Для параўнання: агульная сума сабранай страхавой прэміі па ўсіх відах страхавання (даныя 1995 года) у Чэхіі — 965 млн. ЭКЮ, Польшчы — 1.675 млн. ЭКЮ, Славакіі — 270 млн. ЭКЮ, а ў такіх краінах, як Германія, Швейцарыя, Францыя, Вялікабрытанія ў дзесяткі разоў больш.

На наш погляд, існуе некалькі шляхоў пераадолення недахопаў на страхавым рынку Рэспублікі Беларусь. Сярод іх — асвета (так-так, асвета), дзелавая актыўнасць усіх страхавых кампаній і ўкараненне абавязковых відаў страхавання.

Але калі ў Рэспубліцы Беларусь страхавая справа будзе развівацца за кошт толькі маркетынгавых намаганняў, то гэта, вядома ж, будзе ў духу свабоды рыначных адносінаў. Натуральна, кожны год можна чакаць нейкай прыбаўкі ў развіцці страхавання. У той жа час адназначна відаць, што, развіваючыся такім шляхам, мы ўвесь час будзем адставаць у агульных аб'ёмах. А страхаванне, як частка нацыянальнага валавога прадукту, па-ранейшаму застанецца на нізкім узроўні, параўнальным з развіццёвымі краінамі.

**— Такім чынам, істотнага развіцця страхавання не адбудзецца? Тады як развівацца?**

— Мы лічым цалкам відавочным (хоць многія супраць такога шляху і нават спрабуюць у сродках масавай інфармацыі прапагандаваць свае ідэі), што гэта шлях укаранення абавязковасці страхавання па найбольш важных і значных напрамках дзейнасці грамадства.

Вельмі важна і тое, каб не толькі адна страхавая кампанія займалася гэтым. Стварэнне страхавых пулаў з вядучых страхавых кампаній рэспублікі дасць магчымасць кардынальна і ў сціслыя тэрміны змяніць становішча да лепшага.

**— Мера даволі «крутая». Пагадзіцеся, што ў вас будуць апаненты.**

— Сёння з усёй відавочнасцю бачна, што павысіць страхавую культуру, пераканаць адразу ўсе прадпрыемствы, арганізацыі, установы, насельніцтва толькі з дапамогай аргументаў немагчыма. Так, адмова ад страхавання дазваляе людзям нейкі час і вельмі нязначна эканоміць. Але да той пары, пакуль не здараецца страхавы выпадак. Відаць, правільным будзе ўсё ж абавязаць іх прыняць рашэнне аб страхаванні, і няхай яны на ўласным вопыце пераканаюцца ў правільнасці такога шляху.

**— Не, хай лепш у іх не будзе падстаў. Таго, што вы называеце страхавым выпадкам.**

— Ну, я таксама за гэта. Але ўспомніце пра розныя прыродныя катаклізмы апошняга часу. І тут вельмі дарэчы прывесці прыклад з жыцця — успомніць пра ўвядзенне абавязковага страхавання пабудоў, якія належаць грамадзянам.

Раней існаваўшая практыка добраахвотнасці абумовіла вельмі нізкі ўзровень яго развіцця. Як вынік, непрадбачаныя прыродныя, тэхнагенныя і іншыя з'явы прыводзілі да таго, што грамадзяне, як правіла, звярталіся па дапамогу да дзяржавы або павінны былі разлічваць на ўласныя сілы.

**(Заканчэнне на 8-й стар.)**

# МІЖНАРОДНАЯ ТЭЛЕФОННАЯ СУВЯЗЬ — ПРАДМЕТ РАСКОШЫ?

**Як паведамілі «Звяздзе» ў Рэспубліканскім аб'яднанні «Белтэлекам», з 15 снежня 1998 года змяніліся тарыфы на паслугі тэлефоннай і факсімільнай сувязі з краінамі далёкага замежжа і СНД.**

З 21 да 32 тысяч узрасла цана адной хвіліны тэлефоннай размовы з еўрапейскай часткай Расіі (з азіяцкай — з 22 да 33 тыс. рублёў), з 15 да 25 тыс. рублёў — з Украінаю. Яшчэ больш адчувальна падаражэла сувязь з Каўказскім і Азіяцкім рэгіёнамі: 52 тыс. руб. за кожную хвіліну размовы прыйдзецца выкладаць патэлефанаваўшым у Арменію, Грузію, Кыргызстан, 54 тыс. руб. — у Азербайджан, Казахстан, Таджыкістан, Туркменістан і Узбекістан.

Адно слова звычайнай тэлеграмы ў Азербайджан, Кыргызстан, Туркменістан і Таджыкістан ацэньваецца цяпер у 10.200 руб. (скораснай — у 30.600 руб.), у іншыя краіны СНД — у 10.000 руб. (скораснай — у 30.000 руб.).

А вось каб звязацца з сябрам, напрыклад, у ЗША, трэба быць гатовым аблегчыць ваш сямейны бюджэт на 99 тыс. рублёў за хвілінную гутарку па тэлефоне (ранейшы тарыф — 66 тыс. руб.). У 32 тыс. руб. ацэньваецца пахвілінная тэлефонная сувязь з Польшчай, у 44 тыс. руб. — з Германіяй, у 117 тыс. руб. — з Ізраілем.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# КРОКІ ПА ЛІБЕРАЛІЗАЦЫІ: ТРЭБА ІСЦІ ДА КАНЦА

**Калі мы ўжо рашыліся на пэўныя меры па лібералізацыі валютнага рынку, дык трэба ісці да канца. Так выказаўся намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Мікалай Лузгін на пасяджэнні рэспубліканскага клуба дырэктараў, якое адбылося на мінулым тыдні.**

На канец мінулага—пачатак сёлетняга года сітуацыя на валютным рынку стабілізавалася. Аднак гэта цягнулася нядоўга: інтэрвенцыі НБ скончыліся, і курс беларускага рубля пачаў рэзка падаць (як вядома, першае сур'ёзнае падзенне адбылося ў сакавіку). Гэта выклікала рэзкую рэакцыю з боку кіраўніцтва краіны, адпаведна, адбыліся кадравыя змены ў Нацбанку. Пры гэтым ён тут жа адрэагаваў наступным чынам: часова былі спынены разлікі, абмежавана паступленне беларускіх рублёў на знешні рынак, скарочаны імпарт. Гэта прынесла пэўны вынік: аб'ём беларускай валюты ў нерэзідэнтаў удалося абмежаваць з 1,7 трыльёна ў сакавіку да 130—140 мільярдаў у лістападзе. Па словах М. Лузгіна, у краіне быў назапашаны значны дэвальвацыйны патэнцыял, які не вычарпаны да канца і цяпер. Пры гэтым расійскія падзеі, як зазначыў М. Лузгін, толькі падштурхнулі крызіс у нас, галоўная ж яго прычына — ва ўнутраных каранях. І найперш гэта — складаная сітуацыя са знешнегандлёвым сальда, адмоўная велічыня якога дасягнула цяпер 1,5 мільярда долараў. Адсутнічае рэальны рыначны курс. Хоць экспарт і расце, валютная выручка змяншаецца, што сведчыць аб яе прыхоўванні; павялічваецца бартэр, падае аб'ём таргоў на біржы, у той жа час попыт на валюту павялічваецца. Цяпер на біржы ўсё вырашае штаб, пры гэтым 75 працэнтаў валюты выдзяляецца на энерганосьбіты, 10 — на медыкаменты, 8,5 — на агракомплекс і 6,5 працэнта — на ўсё астатняе.

Разам з тым, зазначыў М. Лузгін, апошнім часам прымаліся і пэўныя меры па лібералізацыі валютнага рынку. Так, з 28 лістапада камерцыйныя банкі вызначаюць курс наяўнай валюты, блізкі да рыначнага, што зрабіла іх прыцягальнымі для насельніцтва і нанесла пэўны ўдар па валютчыках. Адмоўны момант апошняй меры — абавязковы продаж 95 працэнтаў купленай банкамі валюты Нацбанку — зрэшты, гэта абмежаванне, нагадаў М. Лузгін, дзейнічае да 10 студзеня. Апошнім часам зроблены крок і па ўстанаўленню больш рэальнага курса Нацбанка, або так званага спецкурса, безнаяўнай валюты. Прычым спецкурс будзе змяняцца ў залежнасці ад сітуацыі на валютным рынку (у бліжэйшы час, на думку М. Лузгіна, дэвальвацыя будзе працягвацца). Разам з тым плануецца, што спецкурс стане афіцыйным курсам НБ, а цяперашні афіцыйны курс набудзе статус спецкурса для закупкі крытычнага імпарту. Да сярэдзіны года намечана ўвогуле выраўнаваць курсы і выйсці на адзіны курс.

Ужо з пачатку новага года плануецца таксама зніжэнне абавязковага продажу валюты прадпрыемствамі да 30 працэнтаў, а да II квартала выйсці нават на 10 працэнтаў. Абавязковы продаж валюты, зазначаў намеснік старшыні праўлення НБ — гэта дадатковы падатак на прадпрыемствы. Варта дадаць: і вельмі значны, што падрывае ўсе стымулы да экспарту.

Як падкрэсліваў М. Лузгін, трэба мяняць крэдытна-грашовую палітыку, трэба перагледзець існуючыя падыходы да эмісіі, да вызначэння працэнтных ставак... Мы яшчэ можам загадаць стаяць цэнам, але таму ж валютнаму курсу не загадаеш...

Думаецца, гэты экскурс намесніка старшыні праўлення НБ у валютную палітыку — карысны, тым больш — напярэдадні новага фінансава-гаспадарчага года. З яго слоў, па сутнасці, вынікае, што гэта палітыка была, скажам так, не такая ўжо дасканалая. І з гэтага, відаць, належыць зрабіць пэўныя высновы. Зрабіць гэта трэба ўжо па той прычыне, што ўсе крокі і меры галоўнага банка краіны (а ім, гэтым крокам і мерам, сам жа М. Лузгін адмаўляе ў лагічнай паслядоўнасці: то гайкі закручвалі, то рабілі крокі па лібералізацыі) самым непасрэдным чынам адбіваюцца на суб'ектах гаспадарання, на іх кантрактах і дагаворах, на агульных выніках іх дзейнасці.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

*Здарэнні*

# НА ВУЛІЦЫ АДЗІНЦОВА ПАЛЫХАЎ ЖЫВЫ ФАКЕЛ

**Жудасную карціну заспеў дворнік Дома немаўляці, што знаходзіцца ў сталіцы рэспублікі: літаральна на вачах у яго невядомы мужчына ператварыўся ў жывы факел.**

На месца здарэння на вуліцы Адзінцова аператыўна з'явіліся супрацоўнікі міліцыі з бліжэйшага апорнага пункта. Нягледзячы на адчайныя спробы збіць полымя з чалавека снегам, на жаль, дапамагчы яму не ўдалося: мужчына ад атрыманых апёкаў памёр на месцы.

Экспертна-крыміналістычная група, якая пазней працавала на месцы здарэння, устанавіла, што мужчына пад'ехаў на машыне «Форд-Сіера» ў сем гадзін раніцы. Потым выйшаў з машыны, абліўся бензінам і за 10 метраў ад машыны згарэў. У аўтамабілі былі знойдзены дакументы, якія сведчылі, што пацярпелы з'яўляецца дырэктарам камерцыйнай фірмы Мінска. І хоць прадпрымальнік не з'яўляўся мінчанінам, жыў ён у сталіцы, дзе здымаў кватэру па вуліцы Бурдзейнага. Між іншым, самазабойца нарадзіўся ў 1957 годзе.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# «ДЗІЁР» СПАКУСІЎ

Пракуратурай Брэсцкай вобласці арыштавана інспектар мытні, якая, злоўжываючы службовым становішчам, незаконна канфіскавала для асабістага карыстання касцюм фірмы «Крысціян Дзіёр» коштам 5 тысяч нямецкіх марак.

**Аляксей ТАРАНАЎ, прэс-цэнтр Пракуратуры Беларусі.**

# БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ У ЧАКАННІ ПРЫСУДУ

**Палітыкі абяцаюць, што ў апошнія дні адыходзячага 1998 года беларуска-расійская інтэграцыя набудзе другое дыханне. У прыватнасці, ідзе размова пра тое, што, магчыма, зноў будзе зроблена спроба аб'яднаць грашовыя сістэмы дзвюх дзяржаў. Ці ўдасца гэта зрабіць і якія выгады можа прынесці агульная грашовая адзінка грамадзянам Беларусі?**

Памяняць беларускія рублі на якую-небудзь больш цвёрдую і ўстойлівую валюту не супраць, напэўна, усё дзесяцімільённае насельніцтва нашай краіны. За восем гадоў незалежнага існавання беларускай дзяржаве так і не ўдалося стварыць стабільную фінансавую сістэму, хоць адзін час — у 1994—1995 гадах — краіна ўшчыльную наблізілася да гэтага. Аднак у далейшым верх узялі іншыя падыходы: было вырашана, што жорсткі манетарызм толькі шкодзіць сацыяльна арыентаваным рэформам, а ўмераная эмісія (выпуск пустых, нічым не забяспечаных грошай) дапаможа вырашыць сацыяльныя праблемы. Сёння і беларускае насельніцтва, і ўлады пераканаліся ў тым, што абраны шлях, на жаль, неаптымальны. Эмісія, сапраўды, дапамагла своечасова выплачваць пенсіі і зарплаты, ажыццявіць жыллёвае будаўніцтва за кошт фактычна дармавых крэдытаў, але яна ж так раскруціла інфляцыйную спіраль, што беларускі рубель страціў апошнія прыметы канверсоўнасці, а рэальны жыццёвы ўзровень большасці людзей прыкметна знізіўся.

У свой час, у 1993-1994 гадах, калі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў стварыць адзіную рублёвую зону абяцаў тагачасны прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч, гэта не ўдалося зрабіць галоўным чынам з-за непрымальна жорсткіх умоў, на якіх настойвала Масква. Расійскае кіраўніцтва не збіралася ўводзіць нейкі новы беларуска-расійскі рубель і дзяліцца з Мінскам функцыямі эмісійнага цэнтра. Кебічу проста прапанавалі далучыць Беларусь да зоны расійскага рубля — іншымі словамі, адмовіцца ад уласнай грашовай адзінкі на карысць расійскага рубля. Гэта, зразумела, значна абмежавала б суверэнітэт краіны: беларускія ўлады страцілі б кантроль над грашовым станком. Тады такое абмежаванне незалежнасці выглядала для Мінска непрымальным.

Сёння, аднак, у краіне зусім іншая эканамічная сітуацыя, іншыя перспектывы. Вельмі верагодна, што беларускія ўлады цяпер у многім гатовы істотна ахвяраваць беларускім рублём і ідэяй сумеснай валюты дзеля таго, каб хоць крыху аблегчыць жыццё і насельніцтву, і прамысловым прадпрыемствам. (Пераход на расійскі рубель значна спрасціў бы сістэму разлікаў з расійскімі партнёрамі.)

Іншая рэч, што сёння расійскі рубель — гэта зусім не той рубель, што быў да жніўня 1998 года. Пасля жнівеньскага ўзрушэння і змены ўрада Масква пачала практыкаваць тыя ж метады эканамічнага рэгулявання, што і Мінск. Каб пагасіць даўгі бюджэтнікам, Цэнтрабанк уключыў друкарскі станок. Урад запланаваў узровень інфляцыі на наступны год у 30 працэнтаў, аднак незалежныя эксперты перакана" ны, што гэта лічба будзе прынамсі ўдвая большай. Долар у Расіі імкліва даражэе. Рэальныя даходы насельніцтва ў доларавым вылічэнні знізіліся ў параўнанні з дакрызісным узроўнем прынамсі ўтрая, і гэта тэндэнцыя захоўваецца.

Апроч таго, трэба мець на ўвазе, што, атрымаўшы расійскія рублі, беларусы аўтаматычна атрымаюць і расійскія цэны, і расійскія праблемы з запазычанасцю па зарплатах. Пры гэтым наракаць на ўласнае кіраўніцтва будзе як бы і не з рукі: усе рычагі кіравання фінансавай сістэмай будуць знаходзіцца ў Маскве. Аддаць Цэнтрабанку РФ каманду, каб той аддрукаваў мільярд-другі на правядзенне сяўбы, не ўдасца.

Інакш кажучы, мы, магчыма, змякчым адны праблемы, але ўзамен тут жа атрымаем другія.

Нашы суседзі — Польшча, Літва, Латвія — таксама імкнуцца да адзінай валюты, але валюты сумеснай і цвёрдай. Еўра, якая з'явіцца ўжо ў наступным годзе, будзе аб'ядноўваць развітыя краіны, што сумесна вырашылі праводзіць адзіную ўзгодненую фінансавую палітыку, без ушчамлення чыіх-небудзь інтарэсаў. Усе праблемы адзінай грашовай зоны (узровень інфляцыі, эмісія і г. д.) будуць вырашацца толькі агульнымі намаганнямі, у многім без дыктату больш магутных над слабейшымі.

Ці варта чакаць уступлення Беларусі ў зону расійскага рубля ўжо ў бліжэйшай будучыні? Наўрад ці. Для Расіі гэта звязана з непазбежнымі буйнымі выдаткамі. Вельмі магчыма, што ў імя перспектыўных палітычных мэтаў Крэмль гатоў пайсці на такія выдаткі, але ў любым выпадку падобная акцыя не можа быць праведзена імгненна, за месяц-два. Як хутка ўдасца ажыццявіць намечанае (і ці ўдасца ўвогуле), стане вядома толькі ў новым годзе. Залежаць гэта будзе не ў апошнюю чаргу ад таго, як у Расіі будзе складвацца барацьба за прэзідэнцкае крэсла.

**Валянцін ЖДАНКО.**

***На конкурс «Звязды» і Саюза пісьменнікаў***

*Калі-нікалі бывае шкада, што гэтыя прадмоўкі да конкурсных апавяданняў трэба старацца рабіць сціслымі — адно, што плошча не дазваляе, а другое, не варта ж і «захінаць» сваім тэкстам уласна аўтарскі твор, ці, яшчэ горш, навязваць чытачу, як гэты твор «трэба разумець». Дык вось, калі-нікалі бывае шкада, што нельга размахнуцца. Як і ў нашым выпадку з Яўгенам Гучком, якога я вельмі паважаю. Чалавекам, проста апантаным літаратурай, найперш Чытачом з вялікай літары, а таксама крытыкам, аўтарам шасці кніг паэзіі і прозы, блізу сотні публікацый на старонках газет, часопісаў, альманахаў... і разам з тым чалавекам, які прынцыпова не ўступае ў Саюз пісьменнікаў.*



*Можа, калі-небудзь Яўген Сяргеевіч дасць той жа «Звяздзе» інтэрв'ю, дзе сам, падрабязна і шчыра, як ён умее гэта рабіць, раскажа і пра сябе, і пра літаратуру, і пра Саюз пісьменнікаў, які ў яго вачах у такой «няміласці»?*

***Андрэй ФЕДАРЭНКА.***

## Яўген ГУЧОК

# ХАЙ БЫ...

## АПАВЯДАННЕ

Вось і рабі людзям дабро! Хоць увесь час, хоць як найбольш, а адзін раз не зрабі ці недарабі — гневацца пачынаюць і траха не плачуць, аж глядзець на іх балюча. Ведаю я гэта. Вось, напрыклад, пазаўчора звярнецца да мяне Антон, сусед мой. Аўрал, нявыкрутка — грошы трэба. Дзе ўзяць, дзе пазычыць? Конча трэба, бо справа важная развaліцца — сын кватэру не атрымае. У мяне-то грошы ёсць, але ж каб узяць ды адразу даць — гэта не па мне, як і не па большасці нашага люду. Ды і Антон такі. Прыходзь, кажу, заўтра. Бачу, яму трохі палягчэла. Павесялеў нават. Хоць ты яму ўжо грошы тыя і не давай. Відома, і мне весела. Дабро чалавеку зрабіў. Супакоіў. І ў момант той нешта падалося мне, што грошы Антон ужо нібы і атрымаў. І хай бы яно сапраўды так сталася, і ў яго грошы апынуліся, толькі, праўда, не мае. Дык не. Назаўтра, гэта значыць учора, той жа Антон і верне на мой двор. І чаго ён да мяне прывязаўся, і навошта мне гэта? Хай бы ўжо да каго іншага ішоў... І пачаў я лагодна яго адпрэчваць. Бачу, Антону робіцца спачатку ніякавата, а потым і кепска гатова зрабіцца. І мне адначасова пагоршала... І ўсё з-за маіх грошай. Але ж я яго ўчора падтрымаў. Праўда, толькі словам, а не пазыкай. Але і гэта нямала. А што ж рабіць сёння, калі і сёння яго шкада? І тут я змікіціў. Трэба адцягнуць да заўтра... Можа, да таго часу як і абыдзецца. Можа, без мяне ён у каго перахопіць, а можа, яшчэ што... Галоўнае, каб яму лягчэй стала. Адным словам, прыходзь, Антон, заўтра. Ён трошкі павесялеў, а ўжо не так, як надоечы. І ўсё ж, ліха нас бяры, ізноў заспадзяваўся. А гэта значыць, што заўтра можа прыпаскучыцца. Ды яшчэ і пакрыўдзіцца, калі ў мяне не атрымаецца, калі ізноў ад мяне без грошай ісці давядзецца. Але ж я яго двойчы падтрымаў — і пазаўчора, і сёння. А цяпер хай бы мяне ён падтрымаў, каб яму мае грошы не спатрэбіліся, а ён бы лічыў, што выручыў яго я, ну і, вядома, я лічыў бы таксама.

**Ацяпляльны сезон — час выпрабаванняў для работнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі. З гэтай аксіёмай, напэўна, ніхто спрачацца не будзе. Сапраўды, менавіта ўзімку ўсе тыя праблемы, што звязаны з абслугоўваннем жыллёвага фонду, аказаннем на неабходным узроўні камунальных паслуг, абвастраюцца. Магчыма, прыродныя ўмовы «спрыяюць», ці ўсім цяжкасцям ёсць нейкія іншыя тлумачэнні? Вырашыць гэтае пытанне мы і паспрабавалі падчас «прамой лініі» з удзелам міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыса БАТУРЫ.**



# «ГАРАЧАЯ» ПАРА ДЛЯ КАМУНАЛЬНІКАЎ...

## На «прамую» сувязь з чытачамі «Звязды» выйшаў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Васільевіч Батура.

***— ДУМАЮ ўстанавіць лічыльнік на ваду. Хто яго павінен аплачваць і ў якіх памерах?***

*Плакса У., г. Мінск.*

У адпаведнасці з пастановай урада ад 9 ліпеня 1997 г. № 855 «Аб далейшым укараненні прыбораў уліку расходавання газу, вады і цеплавой энергіі» аснашчэнне жыллёвага фонду ўсіх формаў уласнасці прыборамі індывідуальнага ўліку вады і газу, а таксама абслугоўванне гэтых прыбораў ажыццяўляецца за кошт сродкаў уладальнікаў жылых дамоў (кватэр).

Устаноўка ж аднаго прыбора ўліку вады ў кватэры сумесна з фільтрам, вентылем і коштам работ абыдзецца ў суму каля 50 у.а.

***— У кватэры вельмі холадна. Ужо колькі было самых розных камісій, а пытанне не вырашана. Няма гарачай вады.***

*Палавінка В. Б., г. Беразіно.*

Камунальныя кацельні г. Беразіно забяспечаны топачным мазутам пад вызначаныя цеплавыя нагрузкі і для стварэння ў кватэрах тэмпературы не менш як плюс 18°С.

Згодна з паведамленнямі з месца, тэмпература цепланосьбіта з кацельні падчас пахаладанняў у лістападзе складала плюс 85°С. Узнікшую сітуацыю мы адносім да хібаў у рабоце жыллёва-камунальнай арганізацыі. Таму дадзена ўказанне РВА ЖКГ Бярэзінскага райвыканкама прыняць меры па паляпшэнню ацяплення кватэр і канкрэтна па паступіўшых скаргах.

Што датычыць гарачага водазабеспячэння, то, сапраўды, прынята рашэнне райвыканкама падаваць насельніцтву гарачую ваду па графіку (аб гэтым насельніцтва павінна быць праінфармавана) — па рэкамендацыях міністэрства, не менш як два разы на тыдзень.

***— Чым абумоўлены той факт, што ў пенсіянераў адабралі льготу па аплаце за камунальныя паслугі?***

*Ганчарова Т. І., г. Мінск.*

— У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1.09.1995 г. № 349 прыпынена дзеянне арт. 11 Закона «Аб ветэранах» у частцы рэабілітаваных ахвяр палітычных рэпрэсій, непрацуючых ветэранаў працы і Узброеных Сіл, якім раней было прадугледжана прадастаўленне льгот па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг.

***— У рахунку за аплату абавязкова з'яўляецца радок «доўг», і сума там усё павялічваецца. За каго я плачу, няма ў мяне запазычанасці, я жыхар адказны.***

*Яўмен В. П., г. Мінск.*

— У квітку аб аплаце за жыллё і камунальныя паслугі сума доўгу ўказваецца ў тым выпадку, калі вы ўнеслі грошы за мінулы месяц пазней (напрыклад, за лістапад пазней 25 снежня) ці калі ў адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі зроблена індэксацыя тарыфаў на камунальныя паслугі на ўзроўні індэкса росту цэн на тавары вытворчага прызначэння.

***— Ці праўда, што сантэхнікаў у хуткім часе перавядуць на гасразлік? Якім чынам тады будзе рэгламентавацца і кантралявацца іх праца?***

*Ганцавіч К. Р., г. Мінск.*

— Пратаколам даручэнняў кіраўніка дзяржавы, якія былі дадзены 2 верасня 1998 года на нарадзе па праблемах будаўніцтва жылля ў Беларусі, прадугледжана да 1 студзеня 1999 г. ажыццявіць перавод жыллёва-эксплуатацыйных арганізацый на самастойны баланс з прадастаўленнем ім статусу юрыдычнай асобы.

Пераглядаецца шэраг дакументаў, якія ўстанаўліваюць нарматывы працазатрат па эксплуатацыі жылых дамоў, а таксама цэны на платныя паслугі насельніцтву, што аказваюцца работнікамі жыллёва-эксплуатацыйных арганізацый. Гэтыя цэны, а таксама парадак іх індэксацыі да пачатку новага года будуць зацверджаны міністэрствам, а ў далейшым будуць апублікаваны. Грамадзяне павінны ведаць: пасля пераводу на самастойны баланс ЖЭА не будуць мець права адмаўляць жыльцам у аказанні дадатковых платных паслуг, у прыватнасці, па рамонту і ўстаноўцы сантэхнічнага абсталявання ў кватэры, па цвёрдых дзяржаўных цэнах. Аднак пры гэтым, як правіла, санітарна-тэхнічнае абсталяванне (змяшальнікі, унітазы, ракавіны, ванны і г. д.) грамадзяне павінны будуць набываць самастойна.

***— Да прыватызацыі кватэры ўносілі кватплату, пасля прыватызацыі гэты пункт гучыць як «абслугоўванне», а каштуе ён, як і раней. Што ж хаваецца за гэтым тэрмінам?***

*Кірпіч М. М., г. Ушачы.*

— Аплата за тэхнічнае абслугоўванне прыватызаваных кватэр прадугледжана арт. 35 Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду Рэспублікі Беларусь». У адпаведнасці з гэтым дакументам уладальнікі жылых памяшканняў у дамах, што прыватызаваны не поўнасцю, абавязаны штомесячна ўдзельнічаць у фінансаванні долі затрат, якія звязаны з эксплуатацыяй і рамонтам месцаў агульнага карыстання (калідораў, лесвічных пляцовак і г.д.), канструктыўных элементаў (фундаментаў, сцен, перагародак, дахаў), інжынернага абсталявання (цэнтральнага ацяплення, вентыляцыі, водазабеспячэння, ліфтоў), утрыманнем тэрыторыі каля дамоў (прыбіранне тэрыторыі ад смецця, снегу, утрыманне дамавой тэрыторыі і дзіцячых пляцовак і г. д.) у адпаведнасці з займаемай агульнай плошчай у межах кватэрнай платы.

***— Тэмпература ў кватэры не падымаецца вышэй 14—15°С, высокая вільготнасць у жылых памяшканнях.***

*Краўчук В. Г., г. Мінск.*

З надыходам рэзкіх пахаладанняў у лістападзе мела месца паніжэнне пакаёвай тэмпературы ніжэй санітарнай нормы ў шэрагу жылых дамоў, якія забяспечваюцца цяплом ад Мінскай ЦЭЦ-2, у асноўным з-за гідраўлічнага рэжыму. Мінгарвыканкомам і Мінскэнерга выкананы работы, і ў пачатку снежня цеплазабеспячэнне жылых дамоў па вул. Магілёўскай і іншых падключана да больш магутнай крыніцы — ЦЭЦ-4, што дало магчымасць нармалізаваць цеплазабеспячэнне жылфонду, падключанага да цепламагістралі ад вышэйназванай цеплакрыніцы.

Жыллёва-эксплуатацыйнымі службамі будзе зроблены пераразлік за недагрэў кватэр на падставе акта абследавання на фактычную тэмпературу ў названых кватэрах.

***— Жывём у Мінску па адрасу: вул. Каліноўскага, 57, корп. 2. Цячэ дах. Рамонт назначылі на 1999 год. Магчыма, пытанне вырашыцца раней?***

*Калектыўны зварот жыхароў.*

— Па заказу ЖРЭА Першамайскага раёна інстытутам «Белжылпраект» распрацаваны праект па рамонту даху новымі матэрыяламі (ізапласт), таксама прадугледжваецца закрыццё ўсіх тэхналагічных адтулін для электраправодкі і мікрашчылін у загараджальных канструкцыях кватэр верхніх паверхаў для папярэджання пападання халоднага паветра. Работы будуць выкананы ў 1999 годзе.

***— У доме вельмі холадна. Як будзем плаціць? Таксама ёсць праблемы з дахам будынка...***

*Якавенка М. І., г. Слуцк.*

— Пакуль у вашым доме праводзяцца наладачныя работы, да іх заканчэння аплата за ацяпленне будзе знаходзіцца ў адпаведнасці з тэмпературнымі паказчыкамі ў вашай кватэры. Жыллёва-эксплуатацыйныя службы пры неабходнасці зробяць пераразлік.

Што ж датычыцца другога пытання, то ваш дом уключаны ў план капітальнага рамонту даху на 1999 год.

***— Што гэта за «санітарныя надбаўкі», за якія мы павінны плаціць?***

*Пашкевіч Т. І., г. Мінск.*

— Хутчэй за ўсё, гэта тарыфы на вываз смецця і абясшкоджванне адходаў. Распараджэннем Мінгарвыканкама № 1106-р ад 1.10.98 г. яны вызначаны на ўзроўні адпаведна 1680 і 1480 рублёў з аднаго жыхара ў месяц. Яны павінны ўказвацца асобна.

***—Тэмпература ў нашых кватэрах складае не больш 12 градусаў. Якім чынам можна вырашыць праблему?***

*Жыхары дома № 23 па вул. Савецкай, г. Орша.*

Жыллёвы фонд па вул. Савецкай забяспечваецца цяплом ад Аршанскай ЦЭЦ канцэрна «Белэнерга». Сапраўды, цепланосьбіт ад ЦЭЦ падаваўся для ацяплення жылфонду з паніжанымі параметрамі, аднак пры такіх параметрах мелася магчымасць стварэння тэмпературы ў кватэрах плюс 18°С. Прычынай з'явілася разрэгуляванне сістэм ацяплення. Згодна з паведамленнем старшыні Аршанскага гарвыканкама В. С. Сцэнка, праведзена рэгуліроўка гідраўлічнага рэжыму сістэм ацяплення жылых дамоў, што дало магчымасць стварыць тэмпературу ў кватэрах дома 23 па вул. Савецкай у адпаведнасці з санітарнымі нормамі.

***— Калі кватэра прыватызаваная, хто павінен замяняць сантэхніку ў выпадку яе псавання — жыхар ці ЖЭС? Якім дакуметам гэта рэгламентуецца?***

*Санько І. А., г. Мінск.*

— У адпаведнасці з «Правіламі і нормамі ўтрымання жылых дамоў у гарадах і пасёлках Рэспублікі Беларусь», а таксама дамоўленасцю на ўдзел уласніка кватэры ў доме дзяржаўнага жыллёвага фонду і расходах па ўтрыманню, эксплуатацыі і рамонту жылога фонду, рашэнню Мінгарвыканкама ад 3.04.1998 г. у 333 «Аб мерапрыемствах па эканоміі бюджэтных сродкаў у 1998 г.» замена сантэхнічнага абсталявання і санпосуду ў прыватызаваных кватэрах робіцца за кошт уласніка кватэры.

У выглядзе выключэння грамадзянам і сем'ям, што адносяцца да катэгорыі маламаёмных, замену абсталявання могуць праводзіць за кошт сродкаў бюджэту.

***— У нашых дамах няма водаправода і каналізацыі. Калі будзе вырашана гэтае пытанне?***

*Свірыда І. М., г. Вілейка.*

— Вашы дамы запланаваны да падключэння да сетак водаправода і каналізацыі ў III квартале 1999 года. Дом № 75 па вуліцы Лаўрыновіча значыцца ў тытульным спісе капітальнага рамонту жыллёвага фонду ў 1999 годзе.

***— У жніўні 1998 года купіла кватэру, якая аказалася з «сакрэтам»: уся сантэхніка «б'ецца» токам. Дасюль ад спецыялістаў жыллёва-камунальнай службы няма канкрэтнага адказу.***

*Кандрацьева Т. М., г. Мінск.*

— Названыя вамі факты пацвердзіліся (прычына — адсутнасць зазямлення ванны). Будуць прымацца меры па ліквідацыі парушэнняў у адпаведных кватэрах.

***— Калі ў нашых дамах адбудзецца капрамонт? Адказу дасюль мы ніадкуль не пачулі.***

*Драздова Е. С., Арлова А. А., г. Мінск.*

— Рашэннем адміністрацыі Заводскага раёна г. Мінска даручана ЖРЭА выдаць праектнай арганізацыі заказзаданне на распрацоўку праектна-каштарыснай дакументацыі на капітальны рамонт вызначанага будынка з наступным уключэннем яго ў праграму капітальнага рамонту жыллёвага фонду на 1999—2000 гг.

Да таго часу ў вашым доме ЖРЭА Заводскага раёна даручана рабіць бягучы рамонт.

***— Зусім не працуе ацяпленне ў ванным пакоі. Якім чынам можна вырашыць праблему?***

*Смалякова Н. Я., г. Мінск.*

Прыняцце мераў па ацяпленню ў ваннай вашай кватэры даручана разгледзець ГВУЖГ Мінгарвыканкама. Паводле паведамлення кіраўніцтва ЖЭС-54, ёсць няўзгодненыя дзеянні вашага суседа па замене трубапровада і выкананню сантэхнічных работ для абагрэву ручнікасушыльніка ў ваннай.

***— У нашай школе ў класах нізкая тэмпература, мёрзнуць настаўнікі і вучні...***

*Зварот са 110-й школы г. Мінска.*

— Пытанне зараз вырашаецца адміністрацыяй школы сумесна з аддзелам адукацыі Кастрычніцкага раёна. У бліжэйшы час тэмпературны рэжым у класах будзе нармалізаваны.

***— Мы з жонкай інваліды I групы агульнага захворвання, пенсіянеры па ўзросту. Ці маем мы права на льготы пры аплаце за камунальныя паслугі, за карыстанне агульнай тэлеантэнай?***

*Аўдзеенка У. К., г. Ліда.*

— У адпаведнасці з Законам «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь» інвалідам I і II груп, якія не маюць працаздольных членаў сям'і, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы (тэхнічнага абслугоўвання) у межах нормаў, што прадугледжаны заканадаўствам (12 квадратных метраў на кожнага жыхара), за карыстанне тэлефонам (акрамя міжгародніх і міжнародных размоў), камунальныя паслугі (ацяпленне, газ, водаправод, электрычная энергія), а тым, хто жыве ў дамах, дзе няма цэнтральнага ацяплення, — 50-працэнтная скідка з кошту паліва, якое набываецца ў межах нормаў, што ўстаноўлены для продажу насельніцтву.

Ільготы за карыстанне калектыўнай тэлевізійнай антэнай заканадаўствам не прадугледжаны.

***— Дзверы ў нашым пад'ездзе ў вельмі дрэнным стане. Як можна вырашыць гэтае пытанне?***

*Гірэль Л. С., г.Мінск.*

— Сапраўды, у вашым пад'ездзе ў адпаведнасці з праектным рашэннем першы паверх мае скразны праход. Зараз выхад на двор закрыты, уваход з вуліцы Талбухіна абсталяваны драўлянымі дзвярыма. У I паўгоддзі 1999 года ЖЭС-71 плануе замяніць драўляныя дзверы на металічныя.

***— Якім чынам будзе павышацца кватэрная плата і плата за камунальныя паслугі ў бліжэйшы час?***

*Гарынькоў М. З., г. Чэрыкаў.*

— Да заканчэння ацяпляльнага сезона стаўка кватэрнай платы і тарыфы на камунальныя паслугі павышацца не будуць.

Адносна тарыфаў на паслугі водазабеспячэння і водаадвядзення. Будзе праводзіцца індэксацыя тарыфаў для насельніцтва ў адпаведнасці з пастановай урада ад 7 чэрвеня 1995 г. № 294 «Аб індэксацыі тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі».

***— Вельмі холадна ў кватэры, прыміце меры..***

*Лагуновіч Л. А., г. Мінск.*

— Сапраўды, тэмпературныя параметры цепланосьбіта ў вашай кватэры ніжэй за нарматыўныя. Па дадзенаму факту Упраўленню жыллёвай гаспадаркі Мінгарвыканкама даручана выканаць мерапрыемствы па нармалізацыі работы сістэмы ацяплення ў кватэры.

***— Цячэ дах. Калі будуць рамантаваць?***

*Вайцюшэнка Г. П., г. Мінск.*

— Праверкай быў устаноўлены факт працякання даху. Рамонт запланаваны на II квартал 1999 года.

***— Як вядома, санітарная норма тэмпературы ў кватэры падчас ацяпляльнага сезона павінна складаць не менш за 18°С. У нашых кватэрах гэты паказчык значна ніжэйшы, а плату за ацяпленне бяруць у поўным памеры.***

*Калектыўны зварот членаў ЖСК-429, г. Мінск.*

— У выпадку змяншэння тэмпературы ніжэй за санітарныя нормы неабходна звяртацца ў жыллёва-эксплуатацыйную службу, якая павінна арганізаваць абследаванне кватэры прадстаўнікамі ЖЭСа для таго, каб зрабіць замеры тэмпературы, на падставе чаго будзе зроблены пераразлік. Аплата павінна адпавядаць узроўню аказанай паслугі.

***— У кватэры холадна, а службы, якія павінны вырашыць пытанне, нічога не робяць...***

*Кляўко І. М., г. Мінск.*

— У мэтах паляпшэння ацяплення жылога пакоя вашай кватэры ЖРЭА Ленінскага раёна даручана правесці рэгуліроўку работы сістэмы ацяплення з пераразмеркаваннем цепланосьбіта на стаяках.

***— Ці захоўваюцца льготы за жонкай памерлага ўдзельніка вайны?***

*Шлок Л. Л., г. Лунінец.*

— У адпаведнасці з «Палажэннем аб парадку прадастаўлення льгот па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны і сем'ям загінуўшых ваеннаслужачых і праезду на пасажырскім транспарце інвалідам Вялікай Айчыннай вайны», што былі зацверджаны ўрадавай пастановай ад 8 мая 1975 года № 148, за жонкамі памерлых інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны захоўваюцца льготы па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг, што прадугледжаны для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны.

Такім чынам, ільготы захоўваюцца толькі ў тым выпадку, калі ваш муж з'яўляўся інвалідам Вялікай Айчыннай вайны.

***— Брат жыве ў Любані, вельмі холадна ў кватэры. Якія меры прымаюцца камунальнымі службамі?***

*Вяроўка М. І., г. Мінск.*

— Дом вашага брата ўключаны ў Праграму энергазберажэння на 1999 год (прадугледжваецца павялічыць тэрмасупраціўленне загараджальных канструкцый будынка). Капітальны рамонт плануецца выканаць у II квартале 1999 года.

***— Ці карыстаюцца льготамі па аплаце за камунальныя паслугі былыя непаўналетнія вязні фашызму?***

*Жнарко Г. М., г. Мінск.*

— У адпаведнасці з арт. 21 Закона «Аб ветэранах» ільготы, што прадугледжаны заканадаўствам для ўдзельнікаў вайны, распаўсюджваюцца і на былых непаўналетніх вязняў фашысцкіх канцлагераў. Артыкулам 11 гэтага дакумента былі вызначаны льготы па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг рэабілітаваным ахвярам палітычных рэпрэсій, непрацуючым ветэранам працы і Узброеных Сіл. Аднак іх дзеянне ўказам кіраўніка дзяржавы ад 1 верасня 1995 года № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян» было прыпынена (у тым ліку і дзеянне арт. 11 Закона «Аб ветэранах»).

У той жа час гэтым указам былі захаваны льготы для ўдзельнікаў і інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, інвалідаў I і II груп. У адпаведнасці з «Палажэннем аб парадку прадастаўлення льгот па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны і сем'ям загінуўшых ваеннаслужачых і праезду на пасажырскім транспарце», што былі зацверджаны ўрадавай пастановай ад 8 мая 1975 года № 148, ільготы па кватэрнай плаце і плаце за камунальныя паслугі, што прадугледжаны для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны і сем'яў загінуўшых ваеннаслужачых, распаўсюджваюцца на ўдзельнікаў вайны і асоб, што да іх прыраўнаваны, якія прызнаны інвалідамі з-за агульнага захворвання, працоўнага калецтва і па іншых прычынах (за выключэннем выпадкаў, калі інваліднасць наступіла ў выніку процiпраўных дзеянняў).

Так што, калі былыя непаўналетнія вязні атрымлівалі льготы ў адпаведнасці з артыкулам 11 Закона «Аб ветэранах», то зараз гэтыя льготы не прадастаўляюцца. У тым жа выпадку, калі гэтыя грамадзяне з'яўляюцца інвалідамі, то льготы захоўваюцца. Таму ў ЖЭСы неабходна прадстаўляць даведкі, якія пацвярджаюць інваліднасць.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# КІРМАШ



**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 51 (169)**


**представительство**
Волгоградского тракторного завода в Республике Беларусь
**предлагает**
**запасные части**
**к тракторам ДТ-75**



тел./факс
(017) 244-89-51,
244-51-51

гольфстрим

---

**ПРАДАЮ ШЫНЫ «R-13» (4 шт.)**
тэрмінова і танна.
Тэл.: 284-19-73.

---

**НПП "ФЕЛИЗ"**
**ПРОВЕРЕНО ВРЕМЕНЕМ**
(генеральная лицензия №13 от 12.07.94г. до 12.07.99 г. Первомайского РИК)
официальный дилер АО УАЗ
**АВТОМОБИЛИ**
**УАЗ ГАЗ**
100% комплектация и доукомплектация
**ВАЗ ПАЗ**
*Гарантийное обслуживание.*
Т. (017) 239-30-27 т./ф. 232-53-23
*Услуги посредников оплачиваются*

---

Организация продает и реализует на бартер: ГЕРБИЦИДЫ, ФУНГИЦИДЫ, ПРОТРАВИТЕЛИ.
Тел.: (017) 268-75-24; 231-45-60.

---

**ПРАДАЕЦЦА МАТАЦЫКЛ «ІЖ-Ю-4К»** з каляскай, 1985 г. в., у добрым стане, з з/ч і новым рухавіком.
*Тэл. (017) 228-10-95, пасля 18.00.*

---

**Куплю кватэру, пакой у Мінску.**
**Тэл. (8-017) 220-06-40.**

---

Згубленае пасведчанне інваліда серыі 02 № 089132, выдадзенае на імя Суркова Сяргея Іванавіча, лічыць несапраўдным.

---

**ПРОДАЕМ**
# КРУПОРУШКИ
**для производства крупы**
**перловой,**
**ячневой и гороха.**
*Производительность до 250 кг/час.*
*Срок окупаемости — 25 рабочих смен.*
**Предпродажное тестирование на действующем производстве**
**(017) 502-64-40, 502-64-44, 502-62-69, факс 502-64-64.**
**ВОЗМОЖЕН БАРТЕР НА ЯЧМЕНЬ**

---

***ПОКУПАЕМ***



*ЯЧМЕНЬ,*
*ГОРОХ*
*продовольственный*

**Тел.: (017) 502-62-69, 502-64-40, 502-64-44, факс 502-64-64**

---

ПРЕДПРИЯТИЕ ЗАКУПАЕТ
**СЕМЕНА РАПСА**
пищевого 1-го класса
**ПРЕДОПЛАТА.**
Тел./факс (017) 226-37-89
тел. (017) 226-37-88.

---

**ПРАДАЮ МОТАБЛОК МТЗ.**
ТЭЛ. (8-017) 216-96-33.

---

***Предлагаем***
**ХОЛОДИЛЬНОЕ ОБОРУДОВАНИЕ**
*и запчасти:*
*холодильные камеры, агрегаты, з/части к ФАК и ИФ, ТВВ (Тарту) РТХО, ТАМ-113, РВТ-8/12/24, микродвигатели, кран сливной для молочной ванны РПО-2,5, реле давления и др.*
Тел./факс (017) 283-96-59.

---



# Гомельское УПО БелТИЗ «Светотехника»

**ПРЕДЛАГАЕТ крестьянским, фермерским хозяйствам и садоводам-любителям:**

*НОВИНКА!!!*

***Модернизированный дешевый опрыскиватель «РОСА-М» с телескопической удочкой для опрыскивания в осенний период плодовых деревьев.***
***Емкость бачка 8,5 литра.***
***Длина удочки 1,2 м.***
***Дальнобойность струи 1,8 м.***
***Угол факела распыла, градусов не менее — 60.***
***Масса опрыскивателя, кг не более — 2.***
***Опрыскиватель «РОСА-М» можно приобрести без торговых наценок в фирменном магазине УПО БелТИЗ «Светотехника» по адресу: г. Гомель, ул. Советская, 198. Тел. 57-39-16.***




1. Емкость.
2. Пневмонасос.
3. Пробка.
4. Предохранительно-стравливающее устройство.
5. Шланг гибкий.
6. Гайка.
7. Щетка.
8. Ремень*.

* Поставляется по согласованию с потребителем.

***Гомельское УПО БелТИЗ «Светотехника» на базе садово-огородного опрыскивателя начало производство и реализацию нового изделия, надежного помощника автолюбителя — автоспутник «Роса» (пневматический комплект для мойки автомобиля).***

***Изделие предназначено для чистки, мойки и гигиенической обработки легковых автомобилей, а также может быть использовано для мойки любых гладких поверхностей — стен, окон и др.***

***Всего 8 литров воды или моющего раствора — и Ваш автомобиль зеркально чист, а руки сухие.***

***Сделайте свой выбор!***



**Наш адрес: г. Гомель, ул. Советская, 202 «Б».**
**Телефоны: генерального директора — 57-35-27, бухгалтерии — 57-33-26, зам. директора по коммерческим вопросам — 57-43-22, сбыта и маркетинга — 57-34-50, 56-64-92.**
**Факс (0232) 56-64-92.**

# «ДЗІРАВАЕ» НЕБА АНТАРКТЫКІ ПАГРАЖАЕ ПЛАНЕЦЕ

**Паводле сведчання амерыканскіх вучоных, «азонавая дзірка» над Антарктыкай павялічылася. Сёлета яе плошча роўна 26 млн. кв. км супраць 19 млн. кв.км у мінулым годзе.**

Гэтая «дзірка» — самая вялікая за 20-гадовую гісторыю назірання за азонавым слоем. Памяншэнне яго, паведамілі спецыялісты Нацыянальнага навукова-даследчага цэнтра маніторынгу азонасферы, адбываецца штогод. Тым самым выклікаецца павелічэнне ультрафіялетавага выпраменьвання. Уздзеянне апошняга вядзе да росту захворвання на рак, збядненне марской флоры і фауны, змяншэння ўраджайнасці сельгаскультур. Тым не менш, глабальнай катастрофы ў гэтым сэнсе чакаць не варта, і Беларусь пацерпіць ад падобных праяў не болей, чым якая іншая краіна.

Спецыялісты свету, што назіраюць за станам азонавага слоя, прагназіруюць пагаршэнне яго стану яшчэ на працягу двух дзесяткаў гадоў. Нармалізацыя сітуацыі адбудзецца, на думку вучоных, дзесьці ў 2050 годзе. Мяркуецца, што выкананне мераў, прадугледжаных Венскай канвенцыяй (1985 г.) па ахове азонавага слоя і Манрэальскага пратакола (1987 г.) па рэчывах, якія разбураюць азонавы слой, дазволіць стабілізаваць становішча якраз да гэтага часу. Беларусь у свой час падпісала гэтыя дакументы і зараз займаецца пераабсталяваннем вытворчасцяў, дзе выкарыстоўваюцца азонаразбуральныя рэчывы.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# «МАРЖЫ» ЖЫВУЦЬ У МІНСКУ

**З мінскімі «маржамі» мяне пазнаёміла мама маёй сяброўкі: «Прыходзь у сераду ў 9 гадзін на Камсамольскае возера, паглядзіш, як людзі зімой купаюцца. Гэта вельмі здорава!..» Я не скажу, што адчувала сябе здорава, убачыўшы шэрай снежаньскай раніцай, як людзі (смельчакі ці вар'яты — кожны з прахожых у цёплых дублёнках, відаць, меў на гэта свой пункт погляду) з лёгкасцю спускаліся ў чорную вязкую ваду. Гэта члены Рэспубліканскага вучэбна-спартыўнага метадычнага цэнтра. У іх — некалькіх дзесяткаў чалавек, а калі быць больш дакладным, дык 98, — свой погляд на тое, як зрабіць душу і цела маладымі і здаровымі. Аб гэтым мы гутарым з галоўным трэнерам цэнтра Мікалаем Уладзіміравічам ЛЕБЯДЗЕВІЧАМ.**

**— З-чаго ўсё пачыналася, Мікалай Уладзіміравіч?**

— Пачыналася ўсё гадоў 40 таму з вядомых у Саюзе энтузіястаў гэтай справы Жбанкова (у далейшым старшыня Міжнароднай федэрацыі загартоўвання) і Прыходчанкі. Яны пачыналі. Сабралі вакол сябе групу аднадумцаў, якія і стварылі ў нас у Мінску школу загартоўвання, што працавала пры спартыўным таварыстве «Чырвоны сцяг». Групы працавалі ў басейне парка Чэлюскінцаў. Зараз мы называемся Рэспубліканскім вучэбна-спартыўным метадычным цэнтрам. Заняткі групы зімовага плавання праходзяць кожны панядзелак, сераду і пятніцу. Раніцай з 9 да 11 гадзін і пасля абеду — з 16 да 20. Я запрашаю ўсіх жадаючых, хто хоча адчуваць сябе больш бадзёрым, энергічным, тых, хто мае розныя захворванні, прыходзіць да нас і ўмацоўваць сябе. Усё праходзіць, калі чалавек пачынае сачыць за сабой, таму што людзі часцей за ўсё хварэюць ад таго, што губляюць кантроль з боку мозгу над тканкамі, над клеткамі — над арганізмам у цэлым. Вось чаму я лічу, што кожны чалавек павінен клапаціцца над кожнай сваёй клетачкай, каб быць сапраўды здаровым.

**— Што ўваходзіць у праграму такога аздараўлення?**

— Бег, хадзьба, скачкі — агульнаразвіваючыя практыкаванні, 1-гадзінная размінка. Пасля гэтага купанне ў палонцы, у халоднай вадзе. Потым — зноў розныя практыкаванні, якія разаграюць арганізм, бег. Але ўсё гэта дае найбольшы эфект пры адной важнай умове — правільным харчаванні.

**— А як правільна харчавацца? Падзяліцеся сакрэтамі з нашымі чытачамі.**

— Перш за ўсё гэта раздзельнае харчаванне, аб якім сёння так многа гавораць. З агароднінай спалучаюцца вугляводы, крупы могуць пайсці з бялкамі. Як можна болей сырой ежы, не падвергнутай тэрмічнай апрацоўцы. Ад каўбасы і іншых мясных вырабаў лепш адмовіцца. Ужывайце рыбу і як мага больш агародніны.

**— Вось вы сказалі, што ў вас займаецца каля сотні чалавек. А групу часта пакідаюць?**

— Той, хто рэгулярна гэтым займаецца, не кідае, таму што чалавек адчувае, што яму становіцца лепш і лепш. Я сам займаюся купаннем круглы год з трынаццацігадовага ўзросту — ужо гадоў 28. Памятаю, як гэта адбылося першы раз: быў студзень, я вяртаўся з лыжнай прагулкі, гляджу, мой сусед купаецца, прабіўшы лунку ў лёдзе. Я кажу: «Ты што, звар'яцеў?» А ён адказвае: «Паспрабуй сам!» Зняў лыжы, паспрабаваў. І з таго часу купаюся. Адчуванне пасля кожнага купання такое, быццам другі раз на свет нарадзіўся: хочацца спяваць, танцаваць і радавацца. Халодная вада заўсёды лячыла.

Мы вучым тут людзей адносіцца да сябе правільна. Ёсць такі выраз: «Не перашкаджай бліжняму быць шчаслівым». Нават калі здарылася якая непрыемнасць, то першы крок да перамогі — гэта прыманне таго, што здарылася, а далей глядзець наперад, жыць трэба ў адсеку сённяшняга дня.

**— Здароўе — што гэта, па-вашаму?**

— Здароўе — гэта ўсё. Гэта шчасце, калі ты сваімі нагамі можаш ісці туды, куды хочаш. І рабіць тое, што табе трэба.

**— Колькі гадоў вы трэніруеце групы здароўя?**

— Я працую тут з невялікімі перапынкамі з 1973 года. Я назваў бы гэта нават не працай — гэта маё хобі. Кажуць, што самая лепшая работа — добра аплачваемае хобі. А тут атрымліваецца вось такое добрае спалучэнне: я займаюся плаваннем сам і трэнірую іншых. Чаму чалавек хварэе? Гэта адбываецца ад разрыву духоўнага і фізічнага пачаткаў. Калі ў некага духоўнасць высокая, але ён не сочыць за сваёй фізічнай абалонкай, то гэты чалавек не можа быць здаровым, паколькі ў гнілым сасудзе не можа быць чыстай вады. Так што ўсё павінна быць у комплексе. Пры гэтым я лічу, што вельмі добра чытаць карысныя кнігі і дрэнна глядзець тэлевізар. Тэлебачанне — вельмі шкодная рэч. Як правіла, тыя, хто днямі праводзіць вольны час на канапе перад тэлевізарам, і мае праблемы са здароўем. Ды і часу шкада. Каханне, прырода, сонца — вось чым трэба жыць!

**— Але жыць зараз не вельмі проста...**

— Вось менавіта ў час гэтых эканамічных і палітычных цяжкасцяў і трэба мабілізоўваць свае сілы, менш сумаваць, быць аптымістам. У любы момант трэба памятаць, што другога зямнога жыцця ў чалавека не будзе. Таму ўсё трэба рабіць для таго, каб завесці сапраўдных сяброў, стварыць сям'ю, атрымаць добрую работу. Чалавек павінен кожны дзень быць новым. І пастаянна вучыцца, але пры гэтым, як сказана ў Бібліі, не ствараць сабе куміра, не пераймаць кагосьці сляпа, бо гэта вядзе да страты самастойнасці, да ўзнікнення залежнасці ад некага. У канчатковым выніку і да хвароб. Таму давайце ў любой сітуацыі быць самім сабой, быць асобай. І імкнуцца да таго, каб нам усім было лепш.

***Далей мы пагутарылі з членамі цэнтра загартоўкі.***

**Ніна Якаўлеўна МАСЛАВА,** *60-гадовая пенсіянерка (на выгляд гадоў 40)* сказала, што ўжо дзесяць гадоў займаецца зімовым плаваннем, загартоўкай арганізма.

**— А першыя ўражанні памятаеце?**

— Вы ведаеце, калі я ўбачыла, што чалавек апускаецца ў ледзяную ваду, то была ледзь не ў шоку. Не ведаю ўжо, якая сіла волі спатрэбілася, каб пераадолець свой страх і акунуцца ў зімовую ваду. Затое зараз я не адчуваю сваіх гадоў. Апёк цела ледзяной вадой — гэта незабыўнае!

**Галіна Міхайлаўна ІЎЧАНКА,** *таксама мінская пенсіянерка,* займаецца зімовым плаваннем два гады. Яна расказала, што раней мела шмат розных хвароб, у тым ліку і бранхіт, але зараз хвароб як і не было. «Адчуваю сябе бодра і молада», — кажа яна.



*А работніца Мінскага камвольнага камбіната, 47-гадовая* **Таццяна** трапіла сюды пяць гадоў таму дзякуючы свайму сыну. «Калі я не хаджу ў клуб, адчуваю сябе стомленай, на мне быццам гара вісіць. А пакупаўся — усё роўна што зноў на свет нарадзіўся».

*Вось такія яны — мінскія «маржы», якія прынамсі тройчы на тыдзень нараджаюцца зноў. І калі гэта дапамагае ім вырашаць іхнія праблемы, калі гэта робіць іх жыццё яркім, незабыўным, то давайце не будзем лічыць іх дзівакамі.*

**Вольга РАМАНЮК.**



## СВЕДЕНИЯ ОБ ОБЪЕКТЕ РЕСПУБЛИКАНСКОЙ СОБСТВЕННОСТИ, ПОДЛЕЖАЩИМ РАЗГОСУДАРСТВЛЕНИЮ И ПРИВАТИЗАЦИИ

| | | | |
|---|---|---|---|
| Полное и сокращенное наименование объекта разгосударствления и приватизации, его ведомственная принадлежность | | | Арендное предприятие «Полесьеводстройкомплект» АП «ПВСК» Минсельхозпрод |
| Адрес | | | 225710, г. Пинск, ул. Пушкина, 5 |
| Вид деятельности объекта разгосударствления и приватизации | | | Оптовая торговля |
| Планируемые сроки разгосударствления и приватизации | | | IV кв. 1998 г. |
| Предполагаемый способ разгосударствления и приватизации | | | Преобразование в ОАО |
| Орган, осуществляющий разгосударствление и приватизацию данного объекта и его местонахождение | | | Комитет «Брестоблимущество» г. Брест, ул. Ленина, 11 |
| Численность работающих, чел. | | | 512 |
| Сроки предъявления претензий | | | Месяц со дня опубликования |
| Предполагаемая величина уставного фонда создаваемого ОАО (начальная цена продажи), млн.руб. | | | 208744 |
| Стоимость основных фондов, млн. руб. | Всего | | |
| | в т.ч. по следующим группам | зданий и сооружений машин и оборудования | 288511 |
| | | непроизводственных фондов | 1244 |
| Площадь земельного участка, занимаемого объектом, га | | | 33,7688 |
| Начатые инвестиционные проекты (незавершенное строительство), млн. рублей | | | Нет |
| Наличие принадлежащих предприятию долей (паев, акций) в активах других предприятий, млн. рублей | | | 315 |
| Нематериальные активы, млн. рублей | | | 108 |
| Финансовое состояние объекта, млн. рублей | балансовая прибыль | | 14305 |
| | задолженность | кредиторская | 18938 |
| | | дебиторская | 1472 |

***Председатель комиссии по преобразованию: А. А. САВЧУК***



*Сардэчна віншуем унучку* ***Вераніку ЛЕШЫК*** *з г. Ляхавічы з днём нараджэння. Жадаем шчасця, радасці, здароўя, поспехаў у вучобе.*

**Бабуля, дзядуля,** в. Любейкі.

## Асабістае жыццё

**Аб. 955.** Пазнаёмлюся з добрым, працавітым мужчынам. Аб сабе: інтэлігентная, добразычлівая жанчына 43 гадоў, рост 164, дзеці дарослыя, жыву ў раённым цэнтры.

З месцаў зняволення і пітушчых прашу не турбаваць (Віцебская вобласць).

**Аб. 956.** Маладая сімпатычная жанчына 25 гадоў, рост 175 (дачцэ 3,5 года), пазнаёміцца з самастойным, працавітым, з добрай душой мужчынам, з якім можна было б пабудаваць далейшае жыццё. З месцаў пазбаўлення волі і пітушчых прашу не пісаць (Віцебская вобласць).

**Аб. 957.** Пазнаёмлюся з мужчынам, якому патрэбны мая сціпласць, прыстойнасць, вернасць. Мне 52 гады, рост 166. Жыву ў вёсцы, дзеці дарослыя, жывуць асобна. З несур'ёзнымі намерамі і судзімых прашу не турбаваць (Гомельская вобласць).

**Аб. 958.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай без шкодных звычак. Аб сабе: Сяргей, 23/175/78. Жыву ў Мастоўскім раёне. Пажадана фота.

**Аб. 959.** Мне 72 гады, пазнаёмлюся з адзінокай пенсіянеркай, якая жыве ў Мінску, для далейшага сумеснага і раднага жыцця.

**Аб. 960.** Пазнаёмлюся з жанчынай адпаведнага ўзросту, магчыма інвалідам II групы, якая жыве ў любым горадзе ці вёсцы з кватэрай гарадскога тыпу.

Аб сабе: Віктар, інвалід II групы, 27 гадоў, рост 176.

Ілона Бранявіцкая сёлета брала ўдзел у фестывалі «Залаты шлягер» — больш у якасці вядучай канцэртаў, чым спявачкі. Па словах Ілоны, ёй спадабалася атмасфера гэтага музычнага свята і «магчымасць пабыць побач і пазнаёміцца бліжэй з выдатнымі спевакамі і цудоўнымі людзьмі, якіх трэба проста на руках насіць». Дарэчы, аднаго чалавека з гэтай кампаніі Ілона дакладна ведала з дзяцінства — сваю знакамітую маці Эдзіту П'еху. Вольна ці не, але дачку і маці збоку параўноўвалі. Аднак Ілона, здаецца, да гэтага даўно прызвычаілася і адказвае на пытанні наконт параўнанняў без залішняй нервовасці:

ЛЯСЫ-БАЛЯСЫ

# РЭЦЭПТ АД ІЛОНЫ БРАНЯВІЦКАЙ:

## «Ад дрэннага настрою ёсць толькі адзін дзейсны сродак — добры настрой»

— Я ж не памятаю заўсёды пра тое, што я — дачка Эдзіты П'ехі. Гэта збоку для тых, хто бачыць мяне ўпершыню, я больш дачка знакамітай спявачкі, чым сама па сабе. Калі я хадзіла ў школу, то ў першым класе бачыла, як на мяне паказвалі пальцам, — вось яна, глядзіце... А потым усе забыліся, што я дачка П'ехі, і я была звычайнай вучаніцай. Для тых, хто добра мяне ведае, я — не дачка, а Ілона Бранявіцкая.

***— Якія ў вас адносіны з маці?***

— Яны сяброўскія. Абсалютна сяброўскія, бо ў свой час нам не выпала пабыць маці і дачкой у поўнай меры, затое потым мы сустрэліся і ўжо як след пасябравалі. Цяпер мы — нармальныя, цалкам бескарыслівыя сябры. Мяркую, што гэта мацней і лепш, чым звычайныя адносіны маці з дачкой. Яны ў нас заслужаныя, выпакутаваныя. Кожная здабывала павагу іншай сваімі добрымі справамі.

***— Ці не цяжка быць дачкой такога знакамітага чалавека?***

— Канешне не. Цяжка быць дачкой дрэннага чалавека, а добрага — лёгка і прыемна. Я вельмі гордая за маці і маю шчасце ніколі за яе не чырванець. Самы вялікі боль, калі крыўдна і сорамна за сваіх блізкіх і любімых людзей. А маці ў гэтым сэнсе заўсёды на вышыні, таму я гордая за яе.

***— Які ў вас самы любімы «залаты шлягер»?***

— Мне вельмі падабалася песня «Дзесьці на белым свеце», таму што проста страшна падабаўся кінафільм «Каўказская палонніца». Я рабіла дома спадніцу з фіранкі і спявала.

Калі я была маленькая, я хацела быць падобнай на Наталлю Варлей. Дарэчы, я потым сустракалася на канцэртах з Наталляй, і яна сапраўды аказалася вельмі цудоўным чалавекам.

***— Чаму ж вы не марылі быць падобнай на маці?***



— Таму што не цэнім тое, што побач з намі. Паганая ўласцівасць чалавечай натуры.

***— Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю.***

— Я вельмі багатая, бо ў мяне вельмі добрая сям'я. Любімы муж. Двое дзяцей: 12-гадовая Эрыка — яе назвалі ў гонар бабулі-латышкі, і сын Стас 18 гадоў.

***— Эдзіта П'еха — строгая бабуля?***

— Абсалютна не. Яна песціць унукаў. Хаця рэдка іх бачыць. Я жыву ў Маскве, а Эдзіта Станіславаўна — у Піцеры. Дарэчы, ейны новы муж жыве ў Маскве, і яны сустракаюцца кожны раз, як у першы раз...

***— Мы амаль не бачым вас на тэлеэкране. Якія навіны ў вашым творчым жыцці?***

— Спадзяюся, ні для кога не будзе навіной, што за тэлеэфір трэба плаціць. І плаціць трэба дзесяткі тысяч долараў штомесячна, што я сабе дазволіць не магу.

Зараз я заканчваю работу над сваім трэцім альбомам. Калі крызіс дазволіць — выпусцім. За свае зробленыя грошы, тут яны патрэбны не такія ўжо вялікія. А ў астатнім — усё як і ва ўсіх: канцэрты, гастролі...

***— Хто зараз піша для вас песні?***

— Мой муж Яўген Цімашэнкаў (трэці па ліку). Я зусім не хачу пець песні вядомых кампазітараў, таму што люблю, каб песні рабіліся разам, у цёплым сямейным ці сяброўскім коле. Як дзеці!

***— Ваш праект «ранішняй пошты» са Святланай Лазаравай закрыты канчаткова?***

— Проста «Пошта», скажам так, перайшла зараз у іншую арганізацыю, змянілася начальства, і мы проста тэхнічна перасталі весці гэтую праграму. Ды і на са-май справе досыць: амаль два гады мы жартавалі як маглі.

Цяжка сказаць, ці з'яўляемся мы са Святланай у жыцці сяброўкамі. Паміж артыстамі ўвогуле няма вельмі блізкага сяброўства, бо ўсе мы — людзі дарослыя і абцяжараныя сем'ямі. Але ва ўсіх нас добрыя, цёплыя адносіны. І са Светай таксама — колькі ж мы разам з'елі солі!.. Бо мы самі разам пісалі сцэнарый, самі здымалі і самі манціравалі. «Самі сабе рэжысёры» — а гэта, павінна вам сказаць, было зусім не лёгка.

***— Што вы можаце пажадаць сваім слухачам?***

— Нам усім не вельмі пашанцавала з нашымі краінамі. Але паколькі жыццё — толькі адно, і іншага не будзе, трэба знайсці ў сабе якія-небудзь сілы, заплюснуць на нешта вочы і жыць усё роўна шчасліва, любіць адзін аднаго.

У мяне такі рэцэпт нарадзіўся — парадаксальны, але, памойму, вельмі правільны: ад дрэннага настрою ёсць толькі адзіны дзейсны сродак — добры настрой. Таму keep smiling — усміхайцеся!

**Ілона ІВАНОВА.**

**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**

### АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ОЙ, КАЛЯДНЫЯ БЛІНЫ ЛАДНЫЯ

Беларуская народная песня

**Што рухае гэтым казачным гульбішчам, якое шумлівай хваляй пераліваецца ад хаты да хаты, ажыўляючы зімовую прастору?**

Мабыць, адчуванне людзьмі сваёй моцы, значнасці, разуменне імі таго, што толькі супольна, сумеснымі намаганнямі, разам з прыродаю можна перамагчы цемру, якая настырна імкнецца заўладарыць роднай старонкаю, кінуць усё жывое ў сон, забыццё. Ды і клопат пра ўласную будучыню пабуджае людзей быць суладнымі з Сонцам, прымушае іх гуртавацца.

Таму ў самую доўгую ў годзе ноч у гонар Сонца адбываецца старадаўняе свята, на якім суседнічаюць урачыстасць і жарт. Гурты па-карнавальнаму апранутых падлеткаў, моладзі ды і сталага веку мужыкоў і жанок ладзяць забаўнае гулянне, спяваюць шчадроўкі, калядныя песні.

Сярод іх выконваецца вясёлая песня «Ой, калядныя бліны ладныя». Яе спяваюць як на вуліцы, так і за бяседным сталом. Існуе ў розных музычных і тэкставых варыянтах. Адзін з іх увайшоў у рэпертуар ансамбля «Песняры» і стаў вельмі папулярным. Блізкі да яго і твор, запісаны Уладзімірам Раговічам на Магілёўшчыне (тэкст, што змяшчаецца, адрозніваецца ад яго толькі асобнымі словамі).

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*Ой, калядныя бліны ладныя,*
*Ой, люлі, люлі, бліны ладныя!*
*Ой, пшанічныя — дзеўкі пышныя,*
*Ой, люлі, люлі, дзеўкі пышныя!*
*Ой, аржаныя — хлопцы слаўныя,*
*Ой, люлі, люлі, хлопцы слаўныя!*
*Ой, павыбілі дзеўкі сцежачкі,*
*Ой, люлі, люлі, дзеўкі сцежачкі.*
*Яны ходзячы ў начлежачкі,*
*Ой, люлі, люлі, у начлежачкі.*
*Ды муку, крупу яны носячы,*
*Ой, люлі, люлі, яны носячы.*
*Музыканціка яны просячы,*
*Ой, люлі, люлі, яны просячы.*

Віншую дарагую мамачку **Валянціну Мікалаеўну ШАСТАПАЛАВУ** з днём нараджэння. Будзь шчаслівай, бадзёрай і ніколі не сумуй! Жыццё — цудоўная штука!

***Дачка Ева, в. Елянец.***

Сардэчна віншуем любімую дачушку **Наталлю Мікалаеўну СКАМАРОХА** з в. Семежава з днём нараджэння.

***Бацькі.***

*Згубленае пасведчанне ўдзельніка вайны, выдадзенае на імя Буханавай Людмілы Вікенцьеўны, лічыць* ***несапраўдным.***

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

**Перакладзіце прыведзеныя ніжэй словы на беларускую мову і запоўніце клеткі крыжаванкі.**

**Па гарызанталях:** 1. Обёртка. 4. Болтун. 8. Устой. 9. Простор. 10. Лукошко. 11. Выжлец. 13. Целик. 16. Отросток. 17. Хохол. 18. Подзатылок. 19. Защитник. 22. Долг. 25. Мальчуган. 26. Царапка. 27. Отголосок. 30. Индюшонок. 33. Летучая мышь. 35. Оса. 37. Кипяток. 38. Сумка. 39. Шайка. 40. Водоворот. 42. Люпин. 43. Сапог. 44. Одышка. 45. Трёхлетка.

**Па вертыкалях**: 1. Восстановление. 2. Крюк. 3. Оболочка. 4. Вороника. 5. Гумно. 6. Отпрыск. 7. Осокорь. 11. Рычаг. 12. Мерёжа. 14. Вещь. 15. Сабля. 20. Обозрение. 21. Побрякушка. 23. Шалаш. 24. Согласие. 27. Главарь. 28. Насилие. 29. Прыгалка. 30. Общежитие. 31. Очередь. 32. Ехидность. 34. Траур. 36. Аир. 37. Уж. 41. Движение. 43. Било.

**Склаў Уладзімір ТУРАЎ.**

*г. Брэст.*

## «НАСАЦІКІ»

З пяці «насацікаў» вызначце таго, які не падпарадкоўваецца агульнаму правілу, паводле якога падабраліся астатнія чатыры.




*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

● **24 снежня 1798 года** нарадзіўся вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч, творчасць якога пабудавана на беларускім матэрыяле.

● **У гэты дзень у 1818 годзе** нарадзіўся Джэймс Прэскат Джоўль, англійскі фізік, даследчык электрамагнетызму і цеплавых з'яў.

● **У гэты дзень у 1900 годзе** выйшаў першы нумар газеты «Искра».

● **24 снежня 1901 года** нарадзіўся вядомы савецкі пісьменнік Аляксандр Фадзееў, аўтар «Маладой гвардыі» і «Разгрому».

● **24 снежня 1906 года** з'явіўся на свет амерыканскі пісьменнік Рэнэ Барбазон Рэйманд, больш вядомы нашаму чытачу па псеўданіму Джэймс Хедлі Чэйз.

● **24 снежня 1922 года** Ленін прадоўжыў пачатую днём раней дыктоўку свайго «Пісьма да з'езда». «Тав. Сталін, зрабіўшыся генсекам, сканцэнтраваў у сваіх руках вялікую ўладу, і я не ўпэўнены, ці зможа ён дастаткова асцярожна карыстацца гэтай уладай...»

● **У гэты дзень у 1927 годзе** раптоўна памёр славуты рускі неўрапатолаг, псіхіятр, псіхолаг Уладзімір Міхайлавіч Бехцераў, які за некалькі тыдняў да гэтага паставіў дыгназ самому Сталіну — цяжкая параноя. Існуе версія, што гэты дыягназ і стаў прычынай смерці вучонага.

## І так бывае

***У некаторых краінах Цэнтральнай Азіі сталі адраджацца даўно забытыя традыцыі, з якіх, праўда, далёка не ўсе вітаюцца праваахоўнымі органамі.***

У час суда жыхар сяла Каска-Су Чымкенцкай вобласці Казахстана К. Даўленаў спрабаваў даказаць, што ўгон жывёлы з тэрыторыі сумежнай дзяржавы — не крадзеж, а праява ліхасці сапраўднага джыгіта. Угнаўшы ў першы раз у адзіночку 21 барана праз горы з тэрыторыі Узбекістана, джыгіт сапраўды паказаў неблагія здольнасці. Бараноў ён паспеў прадаць сваім аднасяльчанам і вырашыў расшырыць «промысел». Цяпер ужо разам з сябрамі Арынбаевым і Карымбаевым спрабаваў з-за гары праз мяжу перагнаць табун з 14 коней. Але іх дагналі міліцыянеры.

Суддзі высока ацанілі ліхасць джыгітаў: Даўленаў атрымаў 12 гадоў, яго памочнікі — па 10 гадоў пазбаўлення волі.

## Дзесьці на белым свеце

***Самым паўночным горадам Еўропы лічыцца «рознакаляровы» Хамерфест, што ў Нарвегіі, — ён размешчаны за 70-м градусам паўночнай шырыні. А каляровым ён называецца таму, што ўсе будынкі горада расфарбаваны ў яркія, дысаніруючыя з шэрым запалярным пейзажам, колеры.***

Самы паўночны цывілізаваны пункт кантынента даўно ўжо стаў магнітам для соцень тысяч турыстаў. Многія з іх па добрай традыцыі жадаюць засведчыць гістарычны факт свайго наведвання Хамерфеста самым класічным стылем: «Тут быў Джон». Ці — Ганс. Ці Вася. Аберагаючы помнікі архітэктуры, сцены будынкаў, прыродныя славутасці, гарадскія ўлады прадаставілі ў распараджэнне турыстаў вялізны валун, дазволіўшы пісаць на ім усё, што захочацца, за выключэннем амаральных рэчаў, вядома. Валун настолькі вялікі і неабдымны, што мае нават уласнае імя — Вяршынны камень.

## Ну і дзянёк!..

***Суддзя Каменскага раённага суда Свярдлоўскай вобласці А. Токараў, прыехаўшы на сваю дачу ў сяле Чаромхава, убачыў яе грунтоўна разрабаванай: зламыснікі сцягнулі гаспадарчыя дробязі, інвентар, тэлевізар, нават птушыную клетку не забылі.***

Суддзя з гарачкі кінуўся да кіраўніка мясцовай адміністрацыі В. Грыбанава, а той сам аказаўся пацярпелым — у яго ўкралі авечку. Прадстаўнікі дзвюх галін улады звярнуліся ў міліцыю. Там абурыліся такому нахабству зладзеяў, гэтую справу ўзяў пад свой кантроль адзін з кіраўнікоў раённай пракуратуры П. Садкоў, што тут жа абярнулася для яго буйной непрыемнасцю. Як паведамляе газета «Уральскі рабочы», у той жа дзень у пракурорскага работніка прама з кішэні выкралі некалькі тысяч рублёў — усю месячную зарплату.

## Кажуць, што...

***Нядаўна на тэрыторыі Егіпта знойдзена муміфікаваная рука, узрост якой вучоныя ацанілі амаль у 4 тысячы гадоў.***

Рука належала нубійскай прынцэсе, жонцы егіпецкага фараона Мерэнрэ. Яна была адсечана ў якасці пакарання за тое, што прынцэса раздавала міласціну і карміла бедных. І вось цяпер, праз тысячагоддзі, як паведамляе агенцтва Ройтэр, рука зноў паслужыць добрай мэце — яна будзе прададзена на аўкцыёне ў Фларыдзе, а выручаныя ад продажу грошы пойдуць у дзіцячы дабрачынны фонд.

## А яшчэ быў выпадак

***У эпоху «залатой ліхаманкі» ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ў пасёлку Плейсервіль у Каліфорніі была павешана без суда і следства вялікая колькасць злачынцаў, махляроў — такі быў час і такія былі законы.***

У нашы дні жыхары пасёлка вырашылі падзарабіць на такой скандальнай вядомасці. Яны змайстравалі вісельню з пудзілам у натуральную велічыню, якое боўталася ў пятлі, і размясцілі гэта на цэнтральнай плошчы, выпусцілі адпаведныя сувеніры. А мясцовы шэрыф параіў нават зрабіць пятлю гербам пасёлка.

Аднак прэса з абурэннем сустрэла гэтую ініцыятыву, а турысты не толькі не павалілі ў пасёлак натоўпам, але ўвогуле стараліся аб'ехаць яго бокам. Ад задумы давялося адмовіцца.

## Анекдот

*— Скажыце, — звяртаецца суддзя да пацярпелай, — у вас не ўзнікла ніякіх апасенняў, калі падсудзімы прапанаваў вам прагуляцца па цёмнай алеі?*

*— Як не ўзнікла — вядома, узнікла. Але мне і ў галаву не магло прыйсці, што там ён вырве ў мяне сумачку і збяжыць.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі, сакратарыята — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79.* ***E-mail:*** *daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** *— 32-44-12.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 101.039. Індэкс 63850.
Зак. № 7091.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12